# НАША СЛОВА

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 14 (330) 3 — 9 красавіка 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў




## ПОСТУП ТЫДНЯ

● **29 сакавіка на сумесным пасяджэнні Менскага аблвыканкама, менскай і барысаўскай мэрыяў была вызначаная дакладная дата пераносу адміністрацыйнага цэнтра Менскай вобласці ў Барысаў — 1 чэрвеня гэтага года.** Менавіта з гэтага дня Барысаў набудзе статус абласнога цэнтра. Менская вобласць пераймяноўваецца ў Барысаўскую. Як паведамілі ў пакуль яшчэ Менскім аблвыканкаме, разам з абласной адміністрацыяй "эмігрыруюць" усе абласныя ўстановы: абласны суд, абласны гаспадарчы суд, пракуратура вобласці і г.д.

● ***Намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь Станіслаў Нічыпаровіч у гутарцы з карэспандэнтам "Звязды", гаворачы пра кнігагандаль і кнігавыдавецкую справу ў нашай краіне, сказаў:*** *"Калі гаварыць пра камплектаванне бібліятэк як масава-публічных, так і школьных кнігамі серыі "Школьная бібліятэка", то размова ідзе пра стопрацэнтнае фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту. Далей уся беларускамоўная дзіцячая літаратура датуецца на 75 працэнтаў сабекошту, ізноў жа з мэтай змяншэння цаны. Астатнім відам беларускамоўнай кнігі датацыя выдзяляецца ў памеры 50 працэнтаў. Усе беларускамоўныя выданні вызвалены ад падатку на прыбытак".*

● **У Менску праходзяць Дні Скандынавіі ў Беларусі.** Іх мэта — развіццё адносінаў паміж нашымі дзяржавамі, наладжванне новых сувязяў.

● ***Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку распрацоўвае змяненні і дапаўненні*** *ў Палажэнне "Аб парадку выдачы суб'ектам гаспадарання спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці", а таксама ў Палажэнне "Аб ліцэнзаванні і паліграфічнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь і выдачы дазволаў на набыццё паліграфічнага абсталявання". Пасля зацвярджэння новых палажэнняў аб ліцэнзаванні выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці, што плануецца зрабіць у траўні, у Дзяржкамдруку пачнецца перарэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца выдавецкай і паліграфічнай дзейнасцю.*

● **У Менску прайшоў чарговы з'езд Саюза тэатральных дзеячаў.** Старшынём на наступныя пяць гадоў абраны драматург Аляксей Дудараў. Віншуем!

● ***Убачыла свет незалежная газета "Тыднёвік Магілёўскі".*** *Заснавала новае выданне асацыяцыя "Кола сяброў". Наклад выдання — 3 тысячы асобнікаў. Большасць матэрыялаў друкуецца на беларускай мове.*

● **Міністэрства адукацыі нашай краіны ўручыла дыпломы і прэміі семнаццаці аспірантам,** якія перамаглі ў рэспубліканскім конкурсе на лепшую навуковую працу. Конкурс быў арганізаваны саветам сацыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па сацыяльнай падтрымцы таленавітых вучняў і студэнтаў сумесна з Міністэрствам адукацыі. У конкурсе ўдзельнічала 46 маладых вучоных.

● ***У Гародні пачала выходзіць каталіцкая газета "Слова Жыцця".*** *Перыядычнасць выдання — раз на два тыдні. Першы нумар выйшаў накладам 6 тысяч на польскай мове і 3 тысячы — на беларускай з асобнымі тэкстамі па-расійску. Мяркуецца, што ў бліжэйшы час "Слова Жыцця" будзе выходзіць павялічаным накладам — 12 тысяч на польскай і 8 тысяч на беларускай мове.*

● **Міні-фестываль фільмаў для дзяцей і юнацтва прайшоў у сталічных кінатэатрах.**

**Падрыхтаваў В. Ш.**

# "ЦІ ЎСКРЭСНЕМ МЫ..."

### *Успамінаючы знакаміты верш Янкі Купалы*



У Доме літаратара стараннямі Літаратурнага музея Янкі Купалы прайшла вечарына, прымеркаваная да 115-годдзя з дня нараджэння прарока нашага Адраджэння. А праменьчыкам, які высвеціў сэнс літаратурна-музычнай імпрэзы, паслужыў верш Янкі Купалы, напісаны 75 гадоў таму.

І сёння мы, на зломе часу, разам з Купалам зноў стаім перад будучыняй нашай, углядаемся на яравыя палеткі, засеяныя папярэднікамі-будзіцелямі. Разам з геніем нацыі шукаем змест быцця, гукаем вясну-надзею.

Змагарнае Слова Купалы было галоўнай дзейнай асобай згаданай вечарыны. Кінахроніка з Купалавай прысутнасцю, жывы голас песняра як бы запрашаў прысутных да роздуму разам з Купалам "пра нас, пра час, пра заўтра і бязмежнасць".

Зрух душы геніяльнага творцы прымусіў суперажываць пісьменніцу Вольгу Іпатаву, кароткае, але напружанае выступленне якой запомнілася маладой аўдыторыі Дома літаратара. Актуальныя адпаведнікі сённяшняй сітуацыі ў краіне знаходзілі маладыя людзі ў трывожна-запытальных строфах Купалы, прамоўленых акторамі Міколам Казініным, Валерам Шушкевічам, Анатолем Жуком, Вячаславам Галузам. Перамовы з залаю наладзіў сваёй сатырычнай кампазіцыяй Мікола Казачонак. На драматычны лёс паэта і яго твора (70 гадоў замоўчвання пасля напісання) малілася скрыпка...

Не толькі вершы, празаічную публіцыстыку апостала нацыянальнага Адраджэння, змагара за свабодную, незалежную Беларусь пачулі 24 сакавіка, напярэдадні Дня Волі. Прагучалі і трагічныя радкі з ліста да Старшыні ЦВК Чарвякова перад спробаю самагубства, калі на зададзенае сем гадоў таму пытанне — "Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай навек залом пракляты заламаў?" — паэт не змог знайсці адказу.

Таму сцэнарый вечарыны быў пабудаваны і напоўнены так, каб мы, існыя, змаглі ў саміх жа сябе спытаць: ці здольнага роду, ці маем розум ясны, дзе родныя вехі, ці ўскрэснем мы? Будучыня, падказвае нам Купала, у руках "беларускіх сыноў".

Застаецца дадаць, што музычную аздобу вечарыны напоўнілі, апрача згаданых скрыпак (выступалі выхаванцы Рэспубліканскага ліцэя мастацтваў), спевы юных талентаў, над якімі апякуюцца Алена Кісялёва і Мая Яроменка. Цудоўна прагучала песня "Шлях да Беларусі" (словы Ніла Гілевіча, музыка Міколы Сацуры) у выкананні народнага хору музычнага вучылішча імя Глінкі (мастацкі кіраўнік Алесь Рашчынскі).

У фае Дома літаратара супрацоўнікамі купалаўскага музея была разгорнутая выстава "Янка Купала — прарок Адраджэння". Аўтарам жа сцэнарыя вечарыны і пекнай гаспадыняй сцэны на працягу дзвюх з лішкам гадзінаў была вядучая навуковая супрацоўніца Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы сп. Антаніна Хатэнка

"Не загаснуць зоркі ў небе..." — спадзявалася разам з намі песня паэта-здольніка.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

*Янка Купала*

## Перад будучыняй

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.

Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.

Цябе чакаем. будучыні нейкай.
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.

А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!
А там — "Паўстань пракляццем..." Ну, а мы?
Мы ў страху... дым, крутня... разбежнасць...
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.

О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, —
Заходні, усходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпынку выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет — скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы — не мы, што нехта вінават...

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом пракляты заламаў?

Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

1922 г.

*Грамадскі рух*

# "...працэсы, што сёння кранулі і эканоміку, і беларускую мову, ёсць вынікам аднабаковага разумення ідэі беларускага Адраджэння"

*— Спекулянты сабраліся! І чаго яшчэ ім трэба! — сказаў немалады чалавек, які па дарозе да рэдакцыі "Нашага слова" ўбачыў мітынг сталічных прадпрымальнікаў, што ў той дзень адбываўся на бліжэйшай плошчы.*

*Каб даведацца, хто яны такія і чаго ім трэба, наш карэспандэнт **Уладзімір Панада** сустрэўся з адным з гэтых людзей — **Арнольдам Пячэрскім.***

**— Як пачаўся Ваш шлях у камерцыю?**

— Бізнесам я пачаў займацца яшчэ тады, калі дзейнічаў артыкул 151 Крымінальнага кодэкса. Тыя, хто сёння называюць сябе бізнесменамі, менаваліся ў ім спекулянтамі. Першыя крокі на шляху прыватнага прадпрымальніцтва я зрабіў у сталічным клубе філафаністаў, дзе ў той час купляліся і прадаваліся запісы, інструменты, апаратура. Цяпер я бачу, што з яго выйшла нямала маіх калегаў-прадпрымальнікаў. Калі з'явілася першая магчымасць — у 1991 годзе, — я легалізаваў сваю справу, зарэгістраваў як прадпрымальнік і памалу пачаў вывучаць новыя для многіх законы рынку. Заканадаўцы ў той час глядзелі на нас больш прыязна, не ствараючы залішніх перашкодаў, і справы ішлі няблага. Аднак працаваць сур'ёзна мы пачалі толькі каля года таму. Сёння мы прадаём хатнюю электроніку заходняй вытворчасці нашмат таней, чым аналагічныя дзяржаўныя крамы і, у адрозненне ад большасці з іх, з'яўляемся рэнтабельным прадпрыемствам.

**— Вы належыце да слоя дастаткова добра забяспечаных людзей, большасць з якіх мала цікавіцца нацыянальнай ці моўнай праблематыкай. Чым выклікана Ваша цікаўнасць да беларушчыны?**

— Уяўленні нашага грамадства аб людзях сярэдняга класа найчасцей ствараюць анекдоты пра "новых рускіх". Нейкая рацыя ў гэтым ёсць. Але час мінае, і кожнаму чалавеку даводзіцца пераацэньваць каштоўнасці, задумацца, хто ён?

Людзі нашага кола раней за іншых пазбавіліся залежнасці ад дзяржавы — гэтай непадзельнай часткі савецкага мыслення. Я — адзін з тых, што разумеюць: яны жывуць і робяць сваю справу менавіта на гэтай зямлі і маюць тут свае інтарэсы, звязаныя з яе інтарэсамі. Гэткую свядомасць параджае замкнёнае кола: прадпрымальнікі, хай ускосна, уплываюць на становішча ў краіне і самі залежаць ад яго. Адлегласць паміж эканамічнай прыхільнасцю і патрыятызмам не большая, чым паміж ім жа і прыхільнасцю да роднай зямлі ці да матчынай мовы. Падобнае параўнанне нехта, магчыма, зразумее лепш, а значыць, зразумее і тое, чаму мы вызначаем сябе як беларусаў.

Многія мае калегі за апошнія гады наладзілі сувязі з краінамі замежжа, найперш Усходняй Еўропы, якія раней знаходзіліся ў сферы ўплыву былога СССР, — Польшчай, Славакіяй, Чэхіяй, Венгрыяй. Гэта дало нам разуменне таго, што невялікая нацыянальная дзяржава можа нармальна існаваць, не ўваходзячы ў сферу нечых інтарэсаў, і забяспечваць сваім грамадзянам узровень жыцця, годны чалавека. Дзяржавы, пра якія я гавару, арыентуюцца на рынак не адной краіны, а свету ці, прынамсі, Еўропы, бо гэткая еўрапейская інтэграцыя ім выгадная. Для Беларусі ж Еўропа не існуе — гэта мы бачым таксама.

Тое, што камерсанты пачалі ездзіць да нашых суседзяў, знаёміцца з імі, бачыць, як павінен жыць і працаваць чалавек, паўплывала на іх свядомасць больш, чым мітынгі ў абарону мовы і падтрымку незалежнасці. Яны пачалі задумвацца, у якой краіне жывуць і якой яна мае быць? І сёння мы сваімі спосабамі імкнёмся паўплываць на тое, каб змяніць жыццё тут на лепшае.

(Заканчэнне на стар.2.)

*Насустрач з'езду ТБМ*

*Насустрач з'езду ТБМ*

*Што адбываецца ў рэгіянальных структурах ТБМ? Сёння кіраўніцтва арганізацыі, практычна страціўшы з імі сувязь, не можа адказаць на гэтае пытанне. Таму пра дзейнасць адной з суполак Таварыства карэспандэнту "Нашага слова"* ***Уладзіміру Панаду*** *расказаў чалавек, ад арганізацыі пакуль далёкі — настаўнік гісторыі ў сярэдняй школе горада Старыя Дарогі* ***Віталь Юрэвіч.***

# "...што трэба рабіць самому"

**— Калісьці "Наша слова" пісала пра вашыя намаганні аб'яднаць людзей вакол мясцовага аддзела Таварыства. Ці мелі яны поспех?**

— Прыехаўшы настаўнічаць у Старыя Дарогі, я доўгі час думаў, што суполкі Таварыства там не існуе наогул. Але ж у нас ёсць людзі, у тым ліку і маладыя, не проста здольныя гаварыць па-беларуску, а такія, якіх хвалюе будучыня нашай краіны, нашага народа і яго мовы. Толькі я ведаю такіх не менш дзесятка і колькі разоў імкнуўся сабраць іх разам, пад дахам таго ж ТБМ. Таму, калі год таму я пабываў у Менску, дык вырашыў наведаць сядзібу ТБМ, каб атрымаць там нейкую літаратуру і дапамогу ў стварэнні і рэгістрацыі мясцовай суполкі. На адрас Румянцава,13 я наведваўся некалькі разоў, але кожнага разу дзверы былі зачыненыя — не было нават з кім пагаварыць. Тады я ўпершыню адшукаў вашую рэдакцыю — тут мне, прынамсі, далі Статут Таварыства і нумар газеты з рэкамендацыямі, як стварыць першасную суполку арганізацыі.

Прыехаўшы да сябе, я сустрэўся з людзьмі, пачаў абмяркоўваць з імі магчымасць стварэння арганізацыі ТБМ у нас. Атрымаўшы іх згоду, я пачаў высвятляць, што патрэбна дзеля таго, каб юрыдычна аформіць новую суполку Таварыства. Тады я ўпершыню пачуў: Таварыства беларускай мовы ў Старых Дарогах існуе. Як аказалася, першы і, магчыма, апошні раз арганізацыя ТБМ збіралася гадоў шэсць таму, калі яна была зарэгістраваная. Тады была нейкая мода на беларускасць, і каб не адставаць ад іншых, мясцовае кіраўніцтва дало загад сваім падначаленым — настаўнікам, бібліятэкарам ды іншым — запісацца ў суполку Таварыства беларускай мовы. Так гэтая суполка і паўстала. Адзін раз яны сабраліся, пагаварылі пра тое, што трэба абараняць беларускую мову, чыноўнікі пагаварылі, як умелі, па-беларуску — і ўсё, пра мову забыліся. Увогуле, нічога асаблівa дзіўнага ў тым няма — кан'юнктурнае адраджэнства скончылася, калі скончыўся на яго попыт. Цяпер суполкай Таварыства ў нас афіцыйна кіруе супрацоўніца раённага аддзела адукацыі, і ніхто пра гэтае Таварыства не ведае, ніхто туды не ідзе, няма ніякай сувязі з ТБМ у сталіцы, ды, між іншым, я не чуў, каб нехта адтуль цікавіўся нашымі справамі.

Нядаўна я звярнуўся да старшыні нашай суполкі ТБМ з прапановай вылучыць дэлегата на рыхтаваны з'езд Таварыства. Аказалася, што на тое ёй патрэбны дазвол намесніка старшыні мясцовага райвыканкама Альберта Міхайлава — неафіцыйнага ці, хутчэй, афіцыйнага куратара мясцовай суполкі, які і з'яўляецца фактычным яе кіраўніком. Адпраўляць на з'езд дэлегата не трэба, бо на тое няма афіцыйнага запыту з Менска — адказаў той.

**— Вы казалі пра людзей, гатовых дзейнічаць разам з Вамі. Ці маюць яны дачыненне да існуючай суполкі ТБМ?**

— Ніякага. Большасць з іх — мае калегі, настаўнікі. Яны вядуць школьныя ўрокі, займаюцца з дзецьмі пазашкольнай працай па-беларуску. Гэта робіцца не толькі дзеля заробку, але і з'яўляецца выказам іх перакананняў.

**— Ці не шкодзіць, на Ваш погляд, Таварыству беларускай мовы якраз тое, што яго сацыяльнай базай з'яўляюцца менавіта дзяржаўныя чыноўнікі, а найперш — школьныя настаўнікі? Бо ж мова жыве не тады, калі яе вывучаюць у школе, а тады, калі ёй карыстаюцца ўсе слаі грамадства...**

— Мы жывём у той частцы Беларусі, якая да 1939 года называлася Усходняй. Гэта значыць, што людзей тут апрацоўвалі на дваццаць гадоў даўжэй, чым на захадзе, а за дваццаць гадоў вырастае новае пакаленне. Пры савецкім рэжыме ў нас выраслі тры пакаленні беларусаў, і сёння мы маем справу з савецкімі людзьмі і з савецкімі, а не беларускімі традыцыямі.

Савецкая сістэма выхавала людзей, падпарадкаваных дзяржаве, залежных ад яе. Таму ці не адзіным па-сапраўднаму эфектыўным спосабам уздзеяння на большасць з іх з'яўляецца ўплыў дзяржавы. Разумееце, чыноўніку прасцей успомніць ці нават вывучыць беларускую мову, чым, у выпадку няведання яе вызваліць сваю пасаду для іншага. Якраз з гэтай прычыны некалькі гадоў таму ўсе яны — ад міністраў да калгасных брыгадзіраў — без вялікіх намаганняў загаварылі па-беларуску, бо ўрад імкнуўся падкрэсліць сваю талерантнасць да нацыянальных сілаў. Ды нават і сёння наш аддзел культуры ладзіць нейкія народныя святы, вечарыны, заахвочвае тых дзяцей, якія пішуць вершы па-беларуску.

Але час найбольшага спрыяння беларушчыне скончыўся, і таму сёння нашай апорай застаецца школа. Пакуль мова існуе як абавязковая школьная дысцыпліна, гэта надае ёй вартасць у вачах маладых хаця б таму, што без ведання яе не атрымаеш добрага атэстата ці дыплома. Вывучэнне мовы ў школе актуальнае і таму, што ў нашым саветызаваным рэгіёне ўсё менш месца ёй застаецца ў сям'і ці на вуліцы, у побыце. А школа — гэта вывучэнне не толькі мовы, але і ўласнай гісторыі, веданне якой уплывае на вызначэнне чалавека не менш, чым моўная прыналежнасць.

**— Імкнучыся стварыць суполку Таварыства, Вы спадзяваліся на практычную дапамогу ТБМ?**

— Пра гэта я не думаў ды і суполку хацеў заснаваць таму, што ведаў: павінна існаваць грамадская арганізацыя, гатовая прадстаўляць нашыя інтарэсы. Я не чуў, каб Таварыства — рэспубліканская арганізацыя — мела нейкія праграмы ці ладзіла нейкія акцыі, распаўсюджвала нейкія методыкі ў правінцыі. Здаецца, іх папросту не існуе. Але тое, што раблю я і мае аднадумцы, робіцца не таму, што мы належым ці хочам належаць да ТБМ. Гэта — выказ нашых жаданняў.

Дарэчы, мае словы тычацца не толькі ТБМ. Нядаўна я даведаўся пра існаванне такой краёвай арганізацыі, як Таварыства беларускай школы. Здавалася б, яно павінна шукаць кантактаў з аднадумцамі і калегамі па ўсёй Беларусі. Але пра ТБШ мы, беларускія настаўнікі, ведаем яшчэ менш, чым пра ТБМ. Адзіная крыніца звестак пра іх — вашая газета.

Часам мне здаецца, што большасць таго, што рабілася на карысць беларушчыны за апошнія гады рознымі грамадскімі арганізацыямі, было звычайнай фікцыяй, гэткай жа, як і іх шматлікія звароты і адозвы. Дзе плён іх працы? Чаму яны не ў стане абараніць нашую мову, пра якую столькі гавораць, ды і нас саміх? Чаму, каб стварыць у Старых Дарогах новую суполку ТБМ, мне трэба звяртацца па дазвол да шараговага сябра існуючай, але не дзейнай, бо ён займае пасаду у мясцовай адміністрацыі?

Таму сёння я думаю не пра тое, у якую арганізацыю запісацца, а пра тое, што трэба рабіць самому, каб адстаяць сваё.

**Гутарыў У.ПАНАДА.**

# Як вярнуць каштоўнасці?

"Вяртанне" — так называецца камісія Беларускага фонду культуры, якая займаецца праблемай вяртання культурных каштоўнасцяў, вывезеных з тэрыторыі Беларусі ў розныя часы. Сведчаннем працы яе, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны і іншых, хто да таго спрычыніўся, стаў зборнік артыкулаў і дакументаў "Вяртанне-3" (Мн., 1996). У прадмове, напісанай старшынём праўлення Беларускага фонду культуры Уладзімірам Гілепам, гаворыцца: "... сёння асноўнай задачай сваёй Беларускі фонд культуры, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны лічаць выяўленне месцазнаходжання, утрымальнікаў духоўных каштоўнасцей беларускага народа з тым, каб з дапамогай афіцыйных структур прад'явіць патрабаванні дзеля законнага вяртання іх на Радзіму". У зборніку пададзеныя матэрыялы цікавыя, бадай, кожнаму, каго хвалюе праблема рэстытуцыі.

У кнізе друкуюцца тэксты трох дакладаў, зробленых у часе "круглага стала", скарочаны запіс выступаў у дыскусіі, зроблены М.Яніцкай, прынятае падсумаванне. Адной з гэтых публікацыяў ёсць "Трагічныя лёсы беларускіх музейных, бібліятэчных архіўных збораў у час Другой сусветнай вайны" прафесара, старшыні грамадскай камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры Адама Мальдзіса. Спаміж усяго, у сваім выступе аўтар гаворыць пра нацыянальную рэліквію №1 — Крыж Ефрасінні Полацкай. У 1944 годзе ён быў ацэнены ў 6 млн. рублёў. А.Мальдзіс адзначае: "Але ж для беларускага народа ён бясцэнны". Раней лічылася, што крыж знаходзіцца ў калекцыі Морганаў (ЗША). Аднак на афіцыйнае запытанне (1990 г.) быў адказ, што ў Фундацыі Пірпонта Моргана крыжа няма. Потым з'явіліся ў друку публікацыі пра ўсходні след. Разам з тым, заходні — таксама магчымы. А.Мальдзіс гаворыць: "Рэстытуцыя — не гульня ў футбол у адны вароты. Таму мы прадэманстравалі добрую волю, напрыклад, вярнуўшы Украіне частку бібліятэкі Пятлюры, перадаўшы Расіі галандскі трафейны збор кніг, які потым быў вернуты ў Нідэрланды.

Нядаўна, у час прыезду ў Беларусь расійскага віцэ-прэм'ера сп. Бальшакова, наш урад перадаў яму 15 каштоўных абразоў, і мы, зразумела, цяпер спадзяемся на такі ж жэст — што ў старажытны Полацк, на радзіму Ф.Скарыны, будуць вернуты выданні першадрукара".

У раздзеле "З надрукаванага" вартыя ўвагі артыкулы А.Тоўсціка "Куды быў вывезены Крыж святой Ефрасінні?" (Агляд друку), С.Рыбчонка "Дванаццаць апосталаў", А.Мальдзіса "Пра лёс архіва Канстанціна Езавітава" і іншыя публікацыі.

Ці ж можна спакойна ўспрымаць той факт, што Беларусь страціла, як мяркуе А.Мальдзіс, большасць сваіх бібліятэчных, музейных, архіўных збораў. Вывезеная каласальная колькасць скарбаў. І колькі трэба цяпер сродкаў, энергіі, часу на іх вяртанне.

Што да прычын вялікіх стратаў нашых гістарычных каштоўнасцяў, дык яны зразумелыя. Гэта, папершае, геаграфічнае размяшчэнне Беларусі на скрыжаванні шляхоў у Еўропе, войны, акупацыі, рэвалюцыі і г.д. Асабліва вялікія страты прынесла Беларусі перадача ў 1939 годзе Вільні Летуве. Там, у старажытнай сталіцы, засталіся нашыя скарбы, якія ашчадна захоўваюць рупныя летувісы. І тут варта задумацца: вывезенае далёка вярнуць, можа, не гэтак складана, як тое, што засталося на нашых землях па-за межамі Рэспублікі Беларусь.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

# "...працэсы, што сёння кранулі і эканоміку, і беларускую мову, ёсць вынікам аднабаковага разумення ідэі беларускага Адраджэння"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

**— Паводле стаўлення да праблемаў краіны прадпрымальнікаў можна падзяліць на дзве групы. Інтарэсам першай адпавядае існаванне Беларусі як самастойнай нацыянальнай дзяржавы, інтарэсам другой — яе інтэграцыя ў склад Расіі. Чаму Ваш "эканамічны патрыятызм" падзяляюць далёка не ўсе?**

— Закрытасць нашай мяжы на Захадзе і адкрытасць яе на Усходзе напачатку спрыяла і маёй справе, бо 90% тавараў я атрымліваю праз Расію. Роўна і многім маім калегам гэта дало магчымасць пачаць сваю справу. Але я не прыхільнік захавання падобнага стану рэчаў навечна. Дробныя і сярэднія прадпрымальнікі ведаюць, што наш усходні сусед — гэта не вытворца прадаванай імі тут прадукцыі, а толькі перавалачная база. Ім, а значыць, і спажыўцам, было б выгадней мець простыя пастаўкі з краінаў-вытворцаў. Дробны і сярэдні бізнес не хоча быць залежным ад тае ж Расіі, а значыць, ён будзе імкнуцца зрабіць менш залежнай ад яе і сваю дзяржаву.

Што тычыцца буйнога бізнесу, дык у гэтай сферы незалежных прадпрыемстваў папросту не існуе. Уся гэтая сфера звязаная з уладай. У значнай ступені буйныя манапольныя камерцыйныя структуры — толькі шырмы, за якімі хаваюцца і робяць свае справы людзі з дзяржаўнага апарату. Таму пазіцыя буйнога бізнесу — толькі адлюстраванне сённяшняй пазіцыі дзяржаўнага кіраўніцтва. А манапалістам па ўсім свеце патрэбна адно — грошы і ўлада. Інтарэсаў дзяржавы і народа для іх не існуе.

**— Ці не робіцца гэта прычынай канфліктаў паміж дзяржавай і "новымі беларусамі"?**

— Канфлікт магчымы паміж роўнымі. У нас жа дзяржава па-ранейшаму мае прыярытэт ва ўсім, прадстаўляючы інтарэсы чыноўнікаў, а мы занадта слабыя, каб не дазволіць ім залазіць сабе ў кішэні. Таму калі ўрад прымае законы, якія літаральна душаць не звязаных з ім і дастаткова заможных прадпрымальнікаў, тыя, захоўваючы беларускае грамадзянства, пераязджаюць у іншыя, больш свабодныя краіны і працягваюць сваю справу там. Я ведаю шмат людзей, якія зрабілі гэта і яшчэ больш гатовых гэта зрабіць.

Людзі, што чытаюць вашую газету, сустракаюцца з праблемамі іншага плана, не маючы, напрыклад, магчымасці аддаць дзяцей у беларускую школу. Але тое, што адбываецца і з імі, і з намі, — з'явы аднаго парадку: дзяржава лічыць нас за нішто, навязваючы нам сваю волю. І гэта, можна прадбачыць, у будучыні стане прычынай новых грамадскіх канфліктаў. Новае пакаленне людзей з не беларускім, а савецкім мысленнем будзе змагацца не з беднасцю, а з багатымі — тымі, чые ўкладзеныя ў бюджэт падаткі дзяржава сёння выдае на новыя не беларускія, а савецкія школы.

**— Гэтыя словы гучаць як заклік супольна абараніць агульныя нацыянальныя інтарэсы. Але ці не думаеце Вы, што інтарэсы Беларусі розныя людзі ўяўляюць па-рознаму?**

— Для кагосьці лозунг "Жыве Беларусь!" азначае выключна прыярытэт у нашай дзяржаве беларускай мовы і культуры. Для іншых — гэта заклік да пераймання ўлады ў людзей іншай палітычнай і нацыянальнай прыналежнасці. Для мяне ён азначае магчымасць пабудовы дзяржавы, якая дасць сваім грамадзянам найперш свабоду — свабоду карыстання мовай і культурай, свабоду палітычную, свабоду эканамічную.

Людзі, якія па-іншаму разумелі інтарэсы Беларусі, далі ёй новую сімволіку — пра тое, што ў сапраўднасці гэта было вяртанне старой, большасць папросту не ведала. Дык вось, незалежная Беларусь атрымала новую атрыбутыку, але не атрымала новай эканомікі. Людзей, умовы жыцця якіх не палепшыліся пасля змены чырвонага сцяга на бел-чырвона-белы, нацыянальная ідэя не захапіла. Бо патрыятызм мусіць мець базу: родную краіну любяць за тое, што жывецца ў ёй лепш, чым у чужой. Патрыётам чалавека робіць уласнасць. Беларускую зямлю можа па-сапраўднаму любіць і бараніць не найміт, які не мае айчыны, а гаспадар, якому гэтая зямля належыць. Становішча ж людзей, радзімай якіх быў СССР, у незалежнай Беларусі нават пагоршылася. І свядома ці несвядома яны зрабілі ўсё, каб аднавіць стары лад. Таму, на мой погляд, працэсы, што сёння кранулі і эканоміку, і беларускую мову, ёсць вынікам аднабаковага разумення ідэі беларускага Адраджэння, надання яму характара выключна нацыянальнага.

Я за тое, каб наш народ меў сваю дзяржаву, сваю мову, сваю гістарычную сімволіку. Але як можна даць усё гэта людзям, не забяспечыўшы ім нармальнага жыцця? Чым жа ў такім выпадку жыццё ў новай Беларусі будзе розніцца з савецкім рэжымам?

**— Стаўленне ўладаў да людзей Вашага асяроддзя значна радыкалізавала іх. З вуснаў бізнесменаў сёння можна пачуць не толькі эканамічныя, а палітычныя і нацыянальныя патрабаванні. Але ці не знішчыць гэтую актыўнасць змена ўрадавай палітыкі ў дачыненні да сярэдняга слоя?**

— Законы, выдаваныя ўрадам, супярэчаць нашым інтарэсам. Але не толькі гэта — падстава падобнай рэакцыі. Многія з нас разумеюць: прычына таго, што адбываецца, — не персанальны склад заканадаўчых ці выканаўчых органаў дзяржавы і не асоба яе прэзідэнта. Яны — толькі адлюстраванне памкненняў большасці нашых суайчыннікаў, выхаваных савецкай сістэмай, якім не патрэбныя свабода, незалежнасць, народаўладдзе ды нават уласная мова. Можа змяніцца ўрад ці прэзідэнт, але гэтыя мільёны людзей застануцца побач з намі. Каб быць свабоднымі самім, мы мусім даць разуменне каштоўнасці свабоды, незалежнасці і ўласнай мовы ім. Гэта — справа на гады..

**— Мне даводзілася чуць, што якраз у каштоўнасці беларускай мовы Вы мелі магчымасць пераканаць і іншых...**

— Нейкі час таму падатковая інспекцыя выказала да мяне некалькі супярэчных закону патрабаванняў. Адказ я напісаў па-беларуску, і справа рушыла: з раённай інспекцыі мой ліст пераслалі на разгляд у гарадскую, дзе яго перакладалі не адзін дзень. Пераканаць у сваёй слушнасці я нікога не здолеў, затое прыйшоў да высновы, што гэта нармальна — накідаць людзям, якія цябе ўціскаюць, свае ўмовы, хай нават гэткім спосабам. Цяпер я хачу перавесці на беларускую мову ўсё справаводства нашага прадпрыемства —супрацоўнікам практыка будзе карыснай, а непісьменныя хай скардзяцца на сябе.

Што тычыцца іншых прадпрымальнікаў, дык нават заснаванае іх арганізацыяй выданне называецца "Гандлёвая газета". Праўда, гэта не значыць, што ўсе яны гатовыя кінуцца запісвацца ў тое ж ТБМ ці на курсы вывучэння мовы. Але яны — беларусы, якія сваёй дзейнасцю ствараюць эканамічны падмурак незалежнай Беларусі.

**— Падтрымкай якіх арганізацыяў карыстаецца вашае асяроддзе?**

— Апынуўшыся ў складаным становішчы, мы звярнуліся па дапамогу найперш да тых, хто мае досвед арганізацыйнай дзейнасці і барацьбы за свае правы. Мы маем кантакты з партыяй Багданкевіча — яны, дарэчы, распрацавалі вельмі добры праект падатковага заканадаўства. Адна з апошніх нашых акцыяў ладзілася з падтрымкай Беларускага Народнага Фронту. Што тычыцца грамадскіх арганізацыяў, дык практычна нічога пра іх мы не ведаем. Тое ж ТБМ — заснавальнік вашай газеты — практычна ніяк не сутыкаецца з намі, дзеючы ў іншым асяроддзі. Мы не выказваем інтарэсу да іх, яны — да нас, хаця, магчыма, і дарэмна.

Кожная арганізацыя павінна найперш прадстаўляць і абараняць інтарэсы сваіх сяброў. Шукаючы саюзнікаў, мы зважаем найперш на гэта і гатовы да ўсякага супрацоўніцтва, якое дасць плён.

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

**НАША СЛОВА**

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naśa Słowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар** — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Кампутарны дызайн** — Ірына ДЗІВІНА.
**Кампутарны набор**. Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

*Насустрач з'езду ТБМ*

# СПАЕМНІКІ — СВАЕ СЯРОД СВАІХ

У леташнім 43-м нумары газеты "Наша слова" аўтарам гэтых радкоў, псіхолагам, была выкладзеная (пад назваю "Псіхалагічнае спаемства") праграма пашырэння ў побыце ўжывання беларускай мовы. Паведамлялася пра стварэнне беларускамоўнага асяроддзя для тых, хто не мае ўмоваў, але жадаў бы размаўляць на роднай мове.

У кастрычніку 1996 г. скончылася падрыхтоўка, спаемнікі пачалі збірацца, каб за кубачкам гарбаты абмяркоўваць свае захапленні, выказваць асабістыя думкі, абвяшчаць свае, пакуль што дылетанскія этнаграфічныя, гістарычныя, лінгвістычныя і іншыя пошукі.

Шмат у каго паступова пачалося пераадоленне нерашучасці ва ўжыванні мовы, няўхільна пашыраўся асабісты слоўнікавы запас і ведаў беларушчыны.

З самага пачатку спаемнікі адмовіліся запрашаць да сябе прафесіяналаў і "цікавых" людзей. Наша мэта не слухаць, а авалодваць адмысловымі адценнямі мовы, актыўна думаць і выказвацца на роднай мове, самастойна шукаць сутнасць з'яў, бо здабытае самастойна — больш каштуе.

Практыка паказвае, што кожны чалавек мае той ці іншы творчы патэнцыял. Калі спаемнік уведамляе гэта, з'яўляецца жаданне дакладна акрэсліць і рэалізаваць гэты патэнцыял.

У "Спаемстве" паслядоўна ствараюцца варункі для духоўнай самарэалізацыі, бо мова дазваляе асабліва адчуць свет, далучыцца да этнасу, яго гісторыі і культуры. Для гэтага выкарыстоўваюцца і дасягненні псіхалагічнай навукі ў галіне стварэння плённасці стасункаў, фармавання матывацыі і г.д.

Заўважана, што сустрэчы спаемнікаў змякчаюць характэрныя для сучаснага жыцця стрэсавыя напружанні, падымаюць настроі, дэманструюць паспяховасць выкарыстання беларускай мовы пры абмеркаванні самых складаных тэм, надаюць аптымізму, падымаюць пачуццё нацыянальнага гонару.

З рознай рэгулярнасцю ў "Спаемстве" сустракаюцца каля 40 чалавек — рабочыя, служачыя, студэнты, хатнія гаспадыні. Сваім вопытам чарнавой працы па адраджэнні духоўных арыенціраў, патрыятызму, пашырэнні роднай мовы мы гатовыя падзяліцца з актывам ТБМ.

Кантактны тэл. 265-74-12, штосерады з 17 да 18 гадзін.

**Сяргей ЯЗЕРСКІ.**

г. Менск.

# Адраджэнне-97

*Выставы*

25 сакавіка ў сталічным Палацы мастацтваў адбылося адкрыццё традыцыйнай выставы суполкі "Пагоня", прысвечанай гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй прынялі ўдзел таленавітыя майстры пэндзля, якія спавядаюць нацыянальную ідэю і мастацкімі сродкамі змагаюцца за дэмакратычную і суверэнную Беларусь. Выстава паказала, што "пагонічы" падзяляюць трывогу беларускай інтэлігенцыі за лёс Бацькаўшчыны. Іх працы, розныя па жанры, тэматыцы, выканаўчай тэхніцы, індывідуальным почырку, паядноўвае дух патрыятызму, любоў да людзей паспалітых і да славутых нашых продкаў, святых на нашай зямлі мясцін і роднай прыроды.

Адраджэнскай тэматыцы прысвечаныя палотны Я.Ціхановіча ("Веру, уваскрэснеш"), Ю.Хілько ("Куды ідзеш?"), М.Назарчука ("Адраджэнне"), М.Купавы ("За волю, роўнасць, незалежнасць", "Інтэграцыя"), В.Лазоўскага ("Святло вострай брамы"), М.Аўчыннікава ("Узаемапранікненне"), Я.Куліка (партрэты Скарыны, Гусоўскага, полацкага князя Усяслава Чарадзея), Р.Сітніцы (серыя "Замак"), цудоўныя пейзажы У.Сулкоўскага, У.Грыцкевіча і інш. Як адзначыў на адкрыцці выставы старшыня суполкі А.Марачкін, мастакі, якія пачуццёва ўспрымаюць рэчаіснасць, не маглі не адгукнуцца і на сімптомы дыктатуры ў краіне. Калі ў мінулы раз на выставе дэманстравалася пудзіла антыфашысцкага зместу, то сёлета "цвіком" выставы павінны былі стаць сатырычныя вострапалітычныя работы, напісаныя на злобу дня А. Карповічам і А. Марачкіным ("Нашы любімыя лялькі", "Сатырычная графіка"), А. Марачкіным, Л. Талбузіным і Я. Шунейкам (інсталяцыя "Красный уголок — зона". Напамінак пра ГУЛАГ), У. Крукоўскім (плакат "Бацькаўшчына"), Т. Маркавец (трыпціх "Вокны друку") — усяго трынаццаць работ, якія па загадзе міністра культуры Сасноўскага на другі дзень былі прыбраныя з залы, як "не адпавядаючыя існуючым заканадаўчым актам і нарматыўным дакументам".

На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі культуры, літаратуры, навукі, дзеячы-апазіцыянеры, студэнцкая моладзь. Віталі гасцей кароткімі прамовамі народны пісьменнік Беларусі В. Быкаў, старшыня Саюза мастакоў Г.Буралкін, старшыня суполкі "Пагоня" А. Марачкін, прафесар А. Грыцкевіч і мастак М. Купава. Хор "Чыстыя крыніцы" даў невялічкі канцэрт. Цікавым момантам пры адкрыцці выставы стала ўшанаванне беларускім ПЭН-цэнтрам і клубам "Спадчына" сваіх лаўрэатаў. Літаратурныя прэміі ад ПЭН-цэнтра атрымалі М. Чарняўскі за кнігу "Вогнепаклоннікі", Л. Баршчэўскі за пераклады твораў сусветнай літаратуры і В. Быкаў за творы "Пакахай мяне, салдацік" і "Сцяна". Камітэт ушанавання клуба "Спадчына" ганараваў сваіх лаўрэатаў дыпломамі, ордэнамі "Гонар Айчыны", сярэбранымі пярсцёнкамі з выявай "Пагоні", памятнымі медалямі і партрэтамі для мастацкай галерэі. Іх атрымалі Ю. Хадыка, А. Марачкін, М. Ярмаловіч, А. Грыцкевіч, В. Сёмуха, У. Арлоў, В. Вячорка, М. Савіцкі, А. Бяляцкі, В. Сіўчык, Я. Кулік, І. Германчук, К. Шэрман, Я. Калубовіч і іншыя.

**Ірына КРЭНЬ.**

***Клуб перакладчыкаў "НС"***

# Менская "Всемирная литература" — што за з'явішча?

*З пасяджэння секцыі мастацкага перакладу СБП*

На чарговае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу Саюза беларускіх пісьменнікаў, якое вёў яе старшыня, вядомы перакладчык і загадчык кафедры славістыкі БДУ, дацэнт Іван Чарота, у развіццё папярэдняга абгаварэння стану перакладной літаратуры для дзяцей было вынесенае пытанне аб перакладной літаратуры на беларускай мове для вышэйшай школы. Ва ўступным слове ён адзначыў важнасць праблемы — вялікую патрэбу для студэнтаў перакладзеных на беларускую мову твораў сусветнай літаратуры, лагічна вывеўшы гэтае пытанне на другое, звязанае з нованароджаным расійскамоўным часопісам "Всемирная литература".

Працягвала гаворку загадчык кафедры замежнай літаратуры БДУ, доктар філалагічных навук Ірына Шаблоўская. Што ёсць мастацкі пераклад для духоўнага жыцця нацыі? — разважала яна. — Нацыя не можа пачувацца роўнай у свеце, калі гэтая нацыя не ўспрымае свет праз сваю родную мову. Творы сусветнай літаратуры на роднай мове патрэбныя для асветы, а таксама для фармавання нацыянальна свядомай асобы чалавека, будучыні нацыі. А што атрымліваецца ў нашых ВНУ? На беларускім аддзяленні філфака БДУ мы чытаем лекцыі на беларускай мове. Студэнты задаволеныя, — гаварыла спадарыня Шаблоўская.

— Але як толькі даходзім да практычных заняткаў, калі трэба чытаць тэксты, яны вымушаныя звяртацца да расійскіх перакладаў, бо беларускіх проста няма. Да такога сумнага становішча ў галіне мастацкага перакладу прывяло тое, што ў Беларусі ніколі не было ў дачыненні да яго дзяржаўнай палітыкі.

Спадарыня Шаблоўская прызналася, што ў БДУ, калі прафесура даведалася пра заснаванне часопіса "Всемирная литература", усе нават узрадаваліся, бо выданне такое, паводле яе словаў, вельмі патрэбнае. Яна спрабавала наладзіць кантакты з рэдакцыяй, каб абмеркаваць канцэпцыю часопіса. Але цяпер, калі выйшлі першыя нумары, стала зразумела, што выдаўцы арыентуюцца не на настаўнікаў, студэнтаў, не на выкладчыкаў замежнай літаратуры. На жаль, канстатавала яна, часопіс арыентуецца на масавага чытача, пры тым — расійскамоўнага! А нам у Беларусі патрэбен менавіта беларускамоўны часопіс для публікацыі мастацкіх перакладаў.

Далей гаворка і ішла вакол гэтага дзіўнага і неспадзяванага на Беларусі выдання, калі знік беларускамоўны альманах "Далягляды", гэтаксама як "Братэрства", "Ветразь", многія серыйныя выданні ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Сярод пісьменнікаў, перакладчыкаў, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні, абыякавых не было.

— Спадзяванняў на часопіс "Всемирная литература" ў нас ніякіх быць не можа, — сказаў, у прыватнасці, Васіль Сёмуха, падкрэсліўшы: — Канцэпцыю гэтага часопіса вельмі добра выказаў у сваім дабраславенні намеснік прэм'ер-міністра РБ У. Русакевіч, які акрэсліў гэтую з'яву як адзін з крокаў нашай інтэграцыі ў сусветную культуру. Вось так разумеецца нашая інтэграцыя, у выніку якой будзе поўнае знішчэнне беларускасці. І калі справа ідзе пра інтэграцыю, дык далі б гэтыя грошы часопісу "Нёман", які ў гэтым плане заўсёды нёс добрую службу і можа ў сто разоў больш зрабіць за нашую менскую "Всемирную литературу".

Павел Місько канстатаваў: у яго адразу былі сумненні наконт правамернасці выдання гэтага часопіса, а цяпер, пагартаўшы выдатна выдадзены, на цудоўнай паперы часопіс задаўся пытаннем: за кошт чаго і каго ён выдаецца? І адказаў:

— За наш з вамі кошт, шаноўныя. За кошт мастацкай беларускай літаратуры. Апошнія сокі выцягваюць, каб не было за што выдаваць беларускую літаратуру. Усё робіцца, каб пазбавіць беларушчыну духоўнай базы і давесці яе да нуля. Каб усё было на мове "старэйшага брата". З савецкіх часоў такога не было.

Алесь Траяноўскі зазначыў, што калі падобнае стаўленне ўладаў да беларускай мовы і культуры захаваецца, калі будзе працягвацца такі ўціск, дык наша мова, літаратура і культура будуць існаваць хіба што толькі ў эміграцыі. На сваёй зямлі ім месца не будзе.

Доктар філасофіі, прафесар Уладзімір Конан, згаджаючыся з папярэднімі выступоўцамі ў ацэнках нованароджанага выдання, падкрэсліў, што яно сапраўды ёсць праяўленне нашай аднабаковай інтэграцыі з Расіяй. Часопіс "Всемирная литература", паводле яго слоў, не заслугоўвае добрага слова, бо служыць не культурнаму абмену паміж народамі, а аднабаковай палітыцы.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

# Жэнева прапануе інтэгравацца — Менск гатовы

На мяжы 80-90-х гадоў, калі скаўцкі рух Беларусі толькі нараджаўся, у краіне ўзніклі дзве паралельныя скаўцкія арганізацыі. Прычынай таго стала несупадзенне пазіцыяў тых, хто імкнуўся кіраваць рухам моладзі. Словы скаўцкага прырачэння "Служыць Богу і Бацькаўшчыне" розныя людзі разумелі па-рознаму. "Нягледзячы на ўсе змены, Беларусь была, ёсць і будзе непадзельнай часткаю вялікай Расіі" — падобныя лозунгі абвяшчалі лідэры арганізацыі "Союз скаутов Белоруссии" (цяпер — "Всебелорусский союз скаутов"). Удзельнікі ж АБС — Аб'яднання беларускіх скаўтаў — сваёй бацькаўшчынай называлі Беларусь.

Ад самага пачатку Аб'яднаннем беларускіх скаўтаў кіравалі людзі, мала схільныя да кампрамісаў, і менавіта, гэта дазволіла арганізацыі захаваць свае прынцыпы і сваё аблічча. Але разам з тым адкрыта крытычнае стаўленне першага лідэра АБС Аркадзя Жукоўскага да асобы Аляксандра Бондара, прадстаўніка WOSM (Сусветнай асацыяцыі скаўцкага руху) ў краінах былога СССР, стала прычынаю прыхаванага канфлікту гэтых людзей. Зразумела, што асоба і пазіцыі Бондара маглі выклікаць захапленне не ў кожнага. Той — колішні работнік савецкага ідэалагічнага апарата — пазнаёміўся са сваім будучым кумам і цяперашнім генеральным сакратаром WOSM Жанам Марыльёнам яшчэ тады, калі займаў пасаду функцыянера савецкага Чырвонага Крыжа. За амаль два дзесяцігоддзі, што мінулі з таго часу, Аляксандр Бондар набыў поўны давер і падтрымку Марыльёна, стаўшы кіраўніком размешчанага ў Гурзуфе прадстаўніцтва WOSM у краінах СНД.

У адрозненне ад кіраўніка АБС, значна больш дыпламатычнасці ў дачыненнях з Бондарам выказаў лідэр "Союза скаутов Белоруссии" Ігар Касцевіч, які актыўна і плённа кантактаваў з гурзуфскім прадстаўніцтвам. У выніку на пачатку 90-х гадоў намаганнямі скаўцкіх арганізацыяў Беларусі адна з іх ў вачах WOSM набыла аблічча талерантнай, прыязнай і адкрытай да кантактаў, а другая — нацыяналістычнай і выразна схільнай да канфліктаў. Аднак дагэтуль ніводная з іх не ўваходзіла ў Сусветную асацыяцыю скаўцкага руху і дзейнічала самастойна, у сваім, блізкім поглядамі асяроддзі, мела ўласныя планы, праграмы, кадры і амаль не кантактавала з іншай, не маючы ў тым патрэбы.

Гэтак адбывалася да пачатку 1997 года, калі ў Жэневе пачалася рэгістрацыя новых структураў WOSM у постсавецкіх краінах, першымі з якіх сталі Арменія, Малдова і Таджыкістан. Наступнай удзельніцай WOSM мелася стаць адна з так званых славянскіх рэспублік — Беларусь. Расія альбо Украіна. Але тут справа прыпынілася, бо ў кожнай з іх існавалі паралельныя арганізацыі. Скаўтаў жа адной краіны мае яднаць адзіная краёвая арганізацыя. Гэта — адно з базавых патрабаванняў скаўцкага руху.

З рэгістрацыяй моцнага і выразна нацыянальна афарбаванага ўкраінскага "Пласта", які меў перавагу над скаўтамі прарасійскай арыентацыі і ў сваёй дзейнасці мала зважаў на гурзуфскае прадстаўніцтва, было вырашана пачакаць. Адпадала і Расія, дзе канфлікты паміж чатырма буйнымі скаўцкімі арганізацыямі не дазвалялі спадзявацца на іх аб'яднанне ў бліжэйшыя гады. Выбар Аляксандра Бондара паў на Беларусь, дзе бесканфліктна суіснавалі добра яму вядомы і дастаткова буйны — звыш 10000 удзельнікаў — "Всебелорусский союз скаутов" і невялікае ў параўнані з ім Аб'яднанне беларускіх скаўтаў.

Напачатку стагоддзя, калі быў запачаткаваны сусветны скаўцкі рух, яго стваральніку лорду Бадэн-Паўэлу не магло і прысніцца, што грамадзяне адной краіны могуць называць сваёй Бацькаўшчынай розныя дзяржавы. "Адна краіна — адзін народ — адзіная для ўсіх, не зважаючы на расавую і этнічную прыналежнасць, арганізацыя" — гэта вынікае з базавых дакументаў WOSM. Такім чынам, умоваю прызнання сусветным скаўцкім рухам беларускіх скаўтаў стала іх аб'яднанне. Калі б удзельнікі-ВСС і АБС належалі да розных канфесіяў, як валоны і фламандцы Бельгіі, гэтае правіла магло б быць парушанае. Аказалася, аднак, што ў Беларусі як прыхільнікі незалежнасці, так і адэпты Вялікай Расіі ходзяць у адны цэрквы і касцёлы. Таму і тым, і другім далі зразумець: альбо яны яднаюцца, альбо ў Жэневе рэгіструюць адну з дзвюх арганізацыю — тую, якая пагодзіцца з усімі умовамі WOSM.

Сёлета напрыканцы лютага Менск наведалі Аляксандр Бондар і дырэктар спецыяльных мерапрыемстваў і сувязяў Сусветнай асацыяцыі скаўцкага руху Жан Касіньё. Там яны пачулі дзве прапановы Аб'яднання беларускіх скаўтаў: замест стварэння адзінай арганізацыі заснаваць канфедэрацыю АБС і ВСС альбо, у выпадку аб'яднання, надаць прадстаўнікам абедзвюх роўныя правы ў новай структуры. Вялікай цікавасці гэтыя прапановы не выклікалі. Магчыма, таму, што адначасова госці з Жэневы атрымалі згоду "Всебелорусского союза скаутов" як на аб'яднанне, так і на рэгістрацыю ў якасці адзінай нацыянальнай арганізацыі.

Каму і навошта патрэбнае ўтварэнне адзінай дзіцячай арганізацыі Беларусі і прыняцце яе ў сусветную федэрацыю скаўтаў?

Каля сарака гадоў таму сусветны скаўцкі рух падзяліўся. Акрамя WOSM, існуе яшчэ адна міжнародная арганізацыя моладзі — "Скаўты Еўропы", уплыў якой у дзяржавах былога савецкага блока апошнім часам значна пашырыўся. Гэта дае падставы да разважанняў, чым выклікане імкненне WOSM аб'ядноць тое, што не можа быць аб'ядноным — жаданнем дапамагчы новаму пакаленню нашай краіны ці канкурэнтнай барацьбой?

Для ўрада ж Беларусі прыняцце ў Сусветную асацыяцыю скаўцкага руху "Всебелорусского союза скаутов" ці новай арганізацыі, у якой яго функцыянеры будуць мець перавагу, будзе яшчэ адным прарывам ізаляцыі, у якой паступова апынаецца краіна. Разумеючы гэта, урад гатовы з бюджэта аплачваць удзел Беларусі ў WOSM. Як паведаміў у час побыту ў Менску Аляксандр Бондар, адпаведная дамоўленасць паміж ім і прадстаўніком урада Міхаілам Падгайным ужо існуе.

Што можа чакаць скаўтаў далей? Пункт 3 адрасаванага беларускаму Прэзідэнту і ўхваленага ім дакумента "О плане мероприятий по созданию в Республике Беларусь влиятельной молодёжной организации" мае наступны выгляд:

*3. Принять меры по объединению в один Белорусский Союз Молодёжи молодёжных организаций, стоящих на позициях конструктивной поддержки государственной политики и имеющих достаточное влияние в молодёжной среде (Белорусский Союз Молодёжи, Молодёжный союз "Прямое действие", Лига добровольного труда молодёжи, РАМОТ, Ассоциация клубов "ЮНЕСКО", пионеры,* ***скауты*** *и др.)*

**У.П.**

## Крымінал-дайджэст

### Бандыты скарысталі міліцэйскую форму

Двое ў міліцэйскай форме пазванілі ў адну з менскіх кватэр — і работнікам "праваахоўчых органаў", зразумела ж, адкрылі. А далей — уварванне, пагроза зброяй і грабёж. Затым бандыты садзяцца на "Мерседэс-300" і знікаюць. Але на гэты раз сарвалася. На высокім прафесійным узроўні спрацавалі патрульныя групы Ленінскага раённага аддзела міліцыі. "Мерседэс" "засеклі" ў патоку машын і ўжо не выпускалі з поля зроку, пакуль не прыбылі выкліканыя па радыё супрацоўнікі групы затрымкі. Апошняя дзейнічала так імкліва, што бандыты нават не паспелі аказаць супраціўлення. Гэта аказаліся два маладыя жыхары сталіцы, якія нідзе не працавалі. У машыне знойдзены тры адзінкі газавай зброі, міліцэйская форма і буйная сума грошай у замежнай валюце.

### За залаты ланцужок і 35 долараў

Старая жанчына з Баранавічаў насіла залаты ланцужок. Яго прыкмецілі нягоднікі і ноччу, напяўшы маскі, уварваліся ў дом, дзе яна жыла. Жанчыну ўдарылі сякерай, а затым задушылі ў ванным пакоі. Тут ахвяру і знайшлі супрацоўнікі міліцыі. Пачалося следства, нітка якога павяла ў Менск, дзе і былі арыштаваныя нягоднікі, якія спрабавалі прадаць нарабаванае. Акрамя залатога ланцужка ды завушніц, сарваных з забітай жанчыны, бандыты пажывіліся яшчэ і 35 доларамі. Дзякуючы аператыўнай працы і высокаму прафесіяналізму намесніка начальніка Баранавіцкага гарадскога аддзела міліцыі маёра С.Сідора і ягоных паплечнікаў па крымінальным вышуку С.Седаса і В.Папко, злачынцы былі высветленыя і арыштаваныя праз двое сутак пасля забойства.

### Сына ўкралі і запатрабавалі выкуп

У Менску 20-гадовага юнака знаёмая заманіла "ў госці" ў адну з кватэр дома па вуліцы Якуба Коласа. А там яго ўжо чакалі "крутыя хлопцы". Ноччу юнака вывезлі з горада, а маці перадалі, каб несла за сына выкуп. Жанчына звярнулася ў міліцыю. Праз некалькі сутак супрацоўнікі Упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю разам з падраздзяленнем АМАП, высветліўшы месца знаходжання злачынцаў, затрымалі іх: Адзін з затрыманых адсёдзіў, трое жыхары Менска, у тым ліку адна жанчына. Сваю ахвяру яны трымалі ў знаёмага ў вёсцы Свержань Стаўбцоўскага раёна. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

### П'яныя падлеткі забілі жанчыну

Двое 14-гадовых падлеткаў, прыхапіўшы некалькі бутэлек віна, пайшлі да сяброўкі. Пачалася п'янка. Нарэшце маці дзяўчынкі не вытрымала і загадала кампаніі пакінуць кватэру, інакш пакліча міліцыю. Тады дачка прапанавала сваім сябрукам "уціхамірыць" маці. Тыя і "ўціхамірылі". Экспертыза ўстанавіла, што смерць жанчыны наступіла ў выніку шматлікіх цялесных пашкоджанняў — крывападцёкі па ўсім целе, траўма галаўнога мозгу, разрыў ныркі, пералом 10 рэбраў. Суд прыгаварыў падлеткаў да 5 гадоў зняволення ў калоніі. Так што выйдуць на волю паўналетнімі.

**Падрыхтаваў У.ВЕРАБЕЙЧЫК.**

## Чытацкае пытанне

Словы "кулацкі элемент" да гэтага часу навяваюць жах — так імі ў свой час настрашылі бальшавікі, змардаваўшы і знішчыўшы мільёны сялянскага люду. Але адкуль слова "кулак" увогуле ўзялося на Беларусі? Хто яго прыдумаў? Камуністы?

**В. МАЛАШЧАНКА.**
г. Магілёў.

### Гістарычны тлумачальны слоўнік

**А. М. САРОКІН,**
*доктар гістарычных навук*

# Кулакі

**(Да пытання пра азначэнне зместу паняцця)**

Слову "кулакі" жахлівы сацыяльны змест надалі камуністы. А вось у Беларусь яно прыйшло з Расіі. Яго ўвялі ў абарот у канцы XIX стагоддзя публіцысты народніцкага, і сацыял-дэмакратычнага накірунку.

Згодна ўяўленняў пэўнай плыні грамадскай думкі, сялянства як сацыяльны аб'ект капіталістычнага грамадства паводле класавага становішча падзяляецца на тры розныя групы (слаі): дробныя сяляне-беднякі, серадзякі і буйныя (багатыя) сяляне-ўласнікі. Вось гэтых апошніх за "прыжымістасць" і гаспадарскую апантанасць расійскія народнікі і назвалі "кулакамі".

Кулацтва як сацыяльная з'ява выкліканая да жыцця асабістым прадпрымальніцтвам і асабістымі імкненнямі да пашырэння маштабаў і структуры сямейнай (сваёй) гаспадаркі, г. зн. рацыяналізацыі яе ў імя эканамічнага інтарэсу на базе паступовага спалучэння селянінам земляробчай працы з рознымі відамі неземляробчых і "пасляземляробчых" заняткаў (першаснай апрацоўкай сыравіны, гандлем, лесанарыхтоўкай і лесараспрацоўкай, "адыходнымі" промысламі). Гэта, аднак, не выключала выкарыстання такім уласнікам прадпрымальніцкага найму і здачы ў наём сродкаў вытворчасці і наёмнай працы. Адсюль, трэба думаць, і той роскід думак, што ахутвае змест тэрміна і аб'ект вывучэння — "кулацтва". У прыватнасці, ад поўнага адмаўлення аб'екта да прызнання яго дэ-факта, але толькі як іншароднага цела ў сацыяльнай рэчаіснасці. Значыць, асуджанага на знікненне.

Найбольш выразна гэта пазіцыя адлюстраваная ў афіцыйнай тэорыі савецкага грамадства, ацэнкі ёю сялянства дарэвалюцыйнага і перадкалектывізацыйнага перыядаў як класа працоўных і як класа эксплуататараў прыватных уласнікаў, нібыта не здольнага да самастойнага зжывання адсталасці і паскарэння тэмпаў эканамічнага росту. Пры гэтым найбольш буржуазнай частцы сялянства — прадпрымальнікам у земляробстве, г. зн. "кулацтву", адводзілася пераважна месца контррэвалюцыйнай сілы на шляху ў "светлую будучыню" — сацыялізм.

Не дзіва, што кіраўнікі савецкай дзяржавы сталі актыўнымі прыхільнікамі рэалізацыі задачы знішчэння гэтай варожай іхнім мэтам сацыяльнай сілы. Так пачалася "лінія" спачатку на абмежаванне "эксплуататарскіх" адносін, а вельмі хутка і на ліквідацыю "кулацтва" як класа, знішчэння традыцый селяніна-землеўласніка на базе суцэльнай калектывізацыі, шырокага выкарыстання надзвычайных, пазаэканамічных сродкаў.

Вытокі падобнага ўяўлення ўзыходзяць да самага пачатку выпрацоўкі бальшавікамі падыходаў рэвалюцыйнага пераўтварэння сялянскай па складзе насельніцтва краіны, выходзіць, і традыцыйнай сялянскай эканомікі. З другога боку, палітычнае кіраўніцтва бальшавікоў мела патрэбу ў масавай падтрымцы насельніцтва. Аднак, пераважна сялянскі склад яго не дазваляў бальшавіцкай партыі мець значную сацыяльную базу. Для поспеху гэтай справы зручным быў падзел (раскол) сялянства на групы, слаі, як іх называў Ленін, у тым ліку шляхам выдзялення "кулацтва", "заможнакулацкіх" слаёў. Зразумела, у спалучэнні з тактыкай мэтанакіраванай палярызацыі інтарэсаў так званай пралетарызаванай (эканамічна маламоцнай) часткі насельніцтва інтарэсам больш эканамічна моцных сем'яў. Адвёўшы ім ролю, так бы мовіць, чырвонага плашча ў сацыяльнай карыдзе, бальшавікі-матадоры пачалі знішчаць спачатку іх (пры актыўнай дапамозе маламоцнага сялянства-тарэра), а потым даволі паспяхова ўтаймавалі і астатнюю частку сялян, якія імкнуліся да самастойнага гаспадарання. Больш таго, наогул ліквідавалі традыцыйны сацыяльна-эканамічны тып грамадства — селяніна-землеўласніка. Адначасова быў разбураны шматвяковы ўклад сялянскага жыцця, назапашаныя прафесійныя звычкі да працы, культура, а ў далейшым і нацыянальныя асаблівасці насельніцтва. Партыйна-дзяржаўнай уладзе, паўторым, не патрэбны быў самастойны, эканамічна моцны, незалежны ад яе гаспадар-селянін, бо ён ствараў канкурэнцыю, альтэрнатыву бязменнаму валадаранню партыйнай бюракратыі, а ёй неабходна было зрабіць усіх залежнымі і падпарадкаванымі свайму кіруючаму апарату, які палітычна адкрыта і ў цынічнай форме атаясамліваўся з "дыктатурай пралетарыяту". Гэта, у сваю чаргу, стымулявала імкненні кар'ерысцкіх сілаў і з боку тых, хто "папрымазваўся" да "кіруючай" у пошуках "класавага ворага" навакол.

Разам з тым радыкальна-нігілістычны падыход партыйна-дзяржаўнай палітыкі да вызначэння лёсу сацыяльных груп і нават класаў грамадства — вынік акумуляцыі ім папярэдніх рамантычна-ўзнёслых уяўленняў грамадскай думкі пра шляхі абнаўлення навакольнай рэчаіснасці. Вядома, у прыватнасці, што багацеючы селянін працяглы час знаходзіўся ў полі зроку інтэлектуальнай эліты і нават у цэнтры вострых палітычных дыскусій. У залежнасці ад светапогляду ці палітычнай арыентацыі ў творах аўтараў мастацкай, грамадска-палітычнай і навуковай літаратуры "кулак" паўстае то як "ініцыятыўны", "асабліва працавіты" гаспадар, які валодае "камерцыйным талентам", свайго роду "культурны гаспадар (фермер)", то як "ліхвяр", "прайдзісвет", "скупянда", "скнара", або ў строга "класавай" рэвалюцыйна-нігілістычнай лексіцы — "міраед", "буржуй", "уласнік", "буржуазія вёскі", "самы шматлікі з буржуазных слаёў", "селянін-эксплуататар", "капіталістычны клас (элемент) вёскі", "капіталістычны прадпрымальнік у земляробстве", "заможная сельская вярхушка", "кабальшчык", "апошні эксплуататарскі (капіталістычны) клас", апора (база) контррэвалюцыйных, антысавецкіх сіл (элементаў) і інш.

Аднак такія шчодрыя спрэчкі мала праяснялі рэальнасць. Бо для аб'екта гэтых нястрымных станоўчых ацэнак і развенчванняў у пэўнай ступені быў прымальны любы з названых эпітэтаў. Асабліва калі падыходзіць да іх канкрэтна-гістарычна, з улікам нерасчляняльнасці сацыяльна-эканамічных адносін у сялянскім асяроддзі, характэрных для перадкапіталістычнай і раннекапіталістычнай стадыі аграрнага развіцця. Але распаўсюджаныя негатыўныя адносіны да прадпрыемцаў у земляробстве ўскладнялі ўмовы развіцця іх гаспадаркі і абумоўлівалі няпростае становішча "кулацтва" ў інфраструктуры грамадства.

Тым часам дадзеная сацыяльная група ў масе сваёй, нягледзячы на ўсведамленне свайго непрымання як у сялянскім асяроддзі, так і інтэлектуалаў, цярпліва працягвала несці свой крыж, вытвараючы прадукцыю не толькі для ўласнага спажывання, але і для навакольных. Прычым у адпаведнасці з устаноўкамі палітычнай і эканамічнай улады.

Хаця варта падкрэсліць: прыведзеныя негатыўныя назвы (эпітэты) сельскага прадпрымальніка — перш за ўсё вынік праяўлення яго дзейнасці ва ўмовах стадыяльна ранняга характару аграрна-капіталістычнага развіцця краіны. Гэта значыць тады, калі прадпрымальніцтва ў сялянскім асяроддзі, гаспадарках "фермерскага тыпу" ў цэлым адрознівалася не столькі фермерскімі рысамі (арганізацыя больш эфектыўнай вытворчасці, рыначнае найманне рабочай сілы і да т.п.), колькі кабальнай па сваёй сутнасці дакапіталістычнай эксплуатацыі чужой працы: адработкі за доўг і "дапамогу" (цяглам, насеннем, харчовымі прадуктамі), арэнда на частку, ліхвярства. Таму нядзіўна, што рускае (расійскае) выслоўе "кулак" першапачаткова абазначала сельскага гандляра — перакупшчыка (дакладней — "кулашчыка"), які займаўся пераважна скупкай і перапрадажам збожжа.

З развіццём капіталізму, узмацненнем сувязі неземляробчых работ з земляробчымі заняткамі сялян змест паняцця трансфармаваўся. Першапачатковы сэнс тэрміна (перакупшчык, скупшчык, скнара) саступае месца азначэнням "кулака" як фігуры, якая дзейнічае не толькі на рынку, але і ў вытворчасці. Прычым словам "кулацтва" ўсе часцей характарызуюцца любыя формы кабальнай эксплуатацыі, у тым ліку і ў вытворчай сферы. Ленін у працы "Развіццё капіталізму ў Расіі" (90-я гады XX ст.) выкарыстоўваў гэты тэрмін для абазначэння вытворчай і раначнай дзейнасці слоем сельскай буржуазіі, якая фармавалася. Тэрмін выкарыстоўваецца і для абазначэння ўвогуле буйнога гаспадара-селяніна, у тым ліку таго, які, апрача асабістага ўдзелу (у тым ліку членаў сям'і) у вядзенні сваёй гаспадаркі, у дастаткова адчувальных маштабах прымяняе (эксплуатуе) наёмную рабочую сілу.

Тым не менш, часта розніца паміж "кулаком" і ўласна працоўным селянінам з'яўлялася настолькі расплывістай, што вызначалі яе на базе суб'ектыўных, нярэдка эмацыянальных ацэнак. Прычына таму, трэба меркаваць, і ў сезонным характары работ у земляробстве, які патрабуе ў "пікавыя" перыяды канцэнтрацыі намаганняў у абмежаваныя часавыя інтэрвалы. У выніку, так бы мовіць, учарашні працаўнік, па слушным назіранні акадэміка Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук В.А.Ціханава, прыцягваў наёмнага рабочага-парабка на месяц-два і фармальна ператвараўся ў "кулака", эксплуататара чужой працы. У сваю чаргу "парабак", які адпрацаваў пару месяцаў па найме, астатнія 10 месяцаў спакойна працаваў у сваёй гаспадарцы. Больш таго, наймаў на зробленыя грошы, скажам, на тры месяцы двух цесляроў для збудавання свірна.

Не выпадкова ў сярэдзіне 1920 г. Ленін у падрыхтоўчых матэрыялах да выступлення на II Кангрэсе Камінтэрна адзначаў: "Пад "сярэднім сялянствам" у эканамічным сэнсе належыць разумець дробных земляробаў, якія валодаюць, па праву ўласнасці або арэнды, таксама невялікімі ўчасткамі зямлі". Разам са сваёй працай яны "звяртаюцца досыць часта... да найму чужой рабочай сілы". А да буйнога (заможнага) сялянства У.І.Ленін ужо адносіў капіталістычных прадпрыемцаў у земляробстве, якія гаспадарылі з некалькімі наёмнымі рабочымі, хоць бы і выкарыстоўваючы сваю асабістую фізічную працу ў гаспадарцы. Пры гэтым можна дабавіць: асноўная частка даходу якіх ўзнікае з выкарыстання чужой працы. Тым не менш, не без уплыву мэтанакіраванай рэвалюцыйна-нігілістычнай прапаганды і агітацыі, жорсткіх паводзін сіл партыі "дыктатуры пралетарыяту" з "іншадумаючым" сялянствам і іншымі пластамі грамадства, абыходкавым стала ўспрыманне зместу тэрміна ў вельмі негатыўным кантэксце. У рэшце рэшт вульгарна-сацыялагічны падыход савецкай гуманітарнай навукі да выяўлення сэнсу паняцця, як і характару паводзін самой сацыяльнай групы, як кажуць, быў замацаваны ў свядомасці некалькіх пакаленняў "неабсяжнай краіны".

Што да лёсу багацеючых сялян савецкай дзяржавы, зразумела, і Беларусі (аб чым сведчыць іх адносны рост у 20-я гады), то ён наогул даволі сумна вядомы. Але нельга не падкрэсліць, што ён быў прадвызначаны апантаным імкненнем бюракратыі ўмацаваць сваё становішча. Бо не перарві яна набіраючы сілу працэс багацення сялян, само існаванне адміністрацыйна-каманднай сістэмы, як высвятляецца, было б немагчымым. У канцы 20-х гадоў вядомы эканаміст М.Кандрацьеў, пазней рэпрэсаваны, нездарма заўважыў: толькі багацеючы мужык можа быць творчай фігурай, а калі ён ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі, то варты толькі для барацьбы на барыкадах, а не дзеля таго, каб карміць краіну. Прарочыя словы. Інакш як зразумець, што краіна з жорстка рэгулюемай уніфікаванай гаспадаркай, нягледзячы на пастаянныя "бітвы" за ўраджай, так і не вырашыла харчовай праблемы, а купляла хлеб у капіталістаў.

Усё гэта натуральным чынам ставіць пытанне аб правамернасці аднаўлення сапраўднага аблічча "кулацтва" — сацыяльнай групы (слоя) вёскі — ва ўсіх яе ўзаемасувязях і праявах з часоў з'яўлення і да знікнення. Гэта дазволіць, пераканаўы, не толькі малавядомыя, але і цікавыя старонкі гісторыі і культуры нашай Бацькаўшчыны.

*Замежжа*

## З УЛАСНАГА ГЛЕДЗІШЧА

Чаму далёкі Ліван, які знаходзіцца на поўдзень ад Беларусі, мы адносім да Блізкага Усходу, а Чэхію, што на захадзе, да Усходняй Еўропы? Чаму Дзвіну мы называем Заходняй, хаця на ўсходзе нашай краіны няма яшчэ адной ракі з той жа назваю?

Таму што беларусы, як і многія іншыя народы, карыстаюцца поглядамі на свет і падзеі ў ім, сфармаванымі альбо на захадзе Еўропы, альбо на яе ўсходзе. Як мог бы выглядаць свет, бачны з Беларусі?

Падобнае пытанне ставяць перад сабою і іншыя народы, якія, у адрозненне ад нас, спрабуюць даць на яго адказ. Прыклад таму — праца, скончаная сёлета ў Саудаўскай Аравіі. На працягу амаль сямі гадоў ёй займаліся каля тысячы навукоўцаў. Яе вынік — выданне першай у свеце арабскай энцыклапедыі.

Многія ўважаюць, што першае яе прызначэнне — інтэнсіфікацыя інтэлектуальнай дзейнасці ў арабскім свеце і ўздым прэстыжу арабскіх народаў, якія ў вачах свету выглядаюць найперш як гандляры нафтаю. Дагэтуль арабам даводзілася карыстацца падобнымі выданнямі, створанымі за мяжою, у якіх гісторыя свету падавалася ў трактоўцы еўрапейцаў. Таму стваральнікі энцыклапедыі кажуць: з выхадам яе будзе запоўненая пустка ў сусветнай культуры, бо гэтае выданне падае погляд на свет і падзеі ў ім менавіта з гледзішча арабскіх, а не як дагэтуль, рамана-германскіх народаў. Яно мае стварыць сапраўдны, не скажоны вобраз арабскай культуры і яе ролі і месца ў свеце.

Стварэнне універсальнай энцыклапедыі — справа надзвычай складаная. Таму, каб не займацца вынаходніцтвам кола, яе аўтары адкупілі права перавыдання Сусветнай кніжнай энцыклапедыі, прадугледзеўшы магчымасць унясення ў яе зменаў.

У выніку гэтае выданне мае значныя адрозненні ад іншых. Артыкулы ў ім размеркаваныя паводле арабскага алфавіту. З энцыклапедыі выдалена каля тысячы і ўстаўлена звыш трох тысячаў ілюстрацыяў (апошнія тычацца арабскай гісторыі і культуры). У кнігах з'явілася мноства новых артыкулаў, у якіх выкладзеныя арабскі і ісламскі погляды на сусветную гісторыю і культуру, ды на ўплыў на іх арабскіх і ісламскіх народаў. Так, адзін з найвялікшых артыкулаў, памерам звыш 100 старонак, прысвечаны ўкладу арабаў у сусветную навуку.

Яшчэ адно адрозненне — нетрадыцыйны для еўрапейцаў ці амерыканцаў пункт гледжання на мноства падзеяў. Напрыклад, у раздзеле, прысвечаным тэрарызму, згадваецца мноства рухаў і груповак свету, аднак арабскія краіны ў ім абмінаюцца.

Праўда, створанае ў Саудаўскай Аравіі — краіне сунітаў — выданне, найбольш увагі надае гэтай галіне ісламу, а не шыітам. Гучаць нават сцвярджэнні, што энцыклапедыя створаная адпаведна поглядам найбольш строгай версіі сунізму, пануючай у Саудаўскай Аравіі.

Пазнаёміцца з гэтым выданнем беларускім чытачам выпадзе не хутка. Яно — рэдкасць ужо за межамі Саудаўскай Аравіі, дый і цану мае не малую — каля 1600 долараў. Аднак не варта адчайвацца: напярэдзе — яго перавод на CD-ROM і распаўсюджванне праз сетку Internet.

**Падрыхтаваў У.П.**

# Веруем

## “Святло жыцця” ў Навагрcraдку

Згодна рашэнням II Ватыканскага Сабора, кожны свецкі вернік-каталік мае права засноўваць ці браць удзел у рэлігійных аб'яднаннях, якія ў сваёй дактрыне і светапоглядзе не супярэчаць афіцыйнай навуцы Касцёла. Пасля новыя рэлігійныя групы і аб'яднанні атрымалі шырокае распаўсюджванне ў краінах Еўропы і Амерыкі. На пачатку 90-х гадоў, праз суседнюю Польшчу, каталіцкія абнаўленчыя рухі рознага напрамку з'явіліся і ў Беларусі. Некаторыя з іх, заснаваныя як філіялы польскіх аб'яднанняў, не здолелі замацавацца ў нашых умовах і хутка зніклі, некаторыя арганічна ўвайшлі і сталі часткай жыцця для многіх беларускіх вернікаў.

Пры навагрудскім касцёле святога Міхала ўжо два гады дзейнічае рэлігійны рух “Святло жыцця”, і што самае важнае, гэтая суполка моцна трымаецца беларускіх нацыянальных пазіцыяў. А пачалося ўсё з таго, што група маладых беларускіх інтэлігентаў вырашыла пачаць паступовую беларусізацыю навагрудскай каталіцкай парафіі. Мясцовы пробашч, кс. Антоній Дзям'янка, даў сваю згоду і нават пачаў адпраўляць па-беларуску Святую імшу. Але, як гаворыць адна з беларускіх каталіцкіх актывістак Ларыса Бухаленка, яны натыкнуліся на мур неразумення з боку навагрудскіх парафіянаў, якія лічаць сябе “касцёльнымі палякамі” і не жадалі, каб, як яны лічаць, у “іхнім” касцёле гучала беларуская мова. Старыя людзі, як вядома, заўсёды вызначаюцца вялікай кансерватыўнасцю, а моладзь у касцёл амаль не хадзіла. Відаць, вялікія польскія патрыёты і каталікі сваіх дзяцей да гэтага не прывучылі.

Таму Ларыса Бухаленка са сваімі сяброўкамі абралі адзіны і беспамылковы шлях — трэба працаваць з дзецьмі, бо, як вядома, за імі будучыня. Прычым не столькі з традыцыйных г. зв. каталіцкіх' сем'яў, а галоўным чынам з сем'яў няверуючых, секулярызаваных. Год таму была набраная першая невялікая група дзяцей, якіх маладыя актывісткі пачалі навучаць рэлігійным спевам, выкладаць ім асновы хрысціянскай навукі ў рамках падрыхтоўкі да першай камуніі. Паміж настаўніцамі і дзецьмі склаліся цёплыя зычлівыя адносіны. Мінулым летам, гаворыць Ларыса, ім удалося вывезці групу дзяцей у Вроцлаў, дзе яны сустрэліся са святарамі, якія ўжо шмат гадоў працуюць з дзецьмі і моладдзю. Рух “Святло жыцця”, да якога належалі гэтыя ксяндзы, быў створаны менавіта для такой працы і, на думку навагрудскіх актывістаў, найбольш адпавядае тым задачам, якія яны перад сабой паставілі. Галоўныя пастулаты руху — гэта любоў да дзіцяці, да яго душы. Актывісты руху ствараюць адмысловыя хрысціянскія асяродкі, у якіх можа прыйсці любы малады чалавек і яго там прымуць як свайго брата. І дзеці паступова пачынаюць адчуваць у сабе патрэбу быць у гэтай новай сям'і, бо там яны адчуваюць любоў і падтрымку, якой не мелі ў грамадстве.

Вярнуўшыся ў Навагрудак, дзеці вырашылі стварыць і ў сябе падобны аазіс любові і міласэрнасці. Яны пачалі прыводзіць у нядзельную школку сваіх сяброў, і ў хуткім часе суполка з 10 чалавек вырасла да 60, а зараз колькасць яе ўдзельнікаў складае 100 чалавек. Паколькі дзеці рознага ўзросту і з розным узроўнем ведаў, настаўніцы паставілі перад сабой задачу спачатку правесці катэхітычны курс-мінімум, а потым пачаць заняткі з маленькімі групамі па індывідуальнай праграме. Але ж галоўная задача руху — навучыць дзяцей любіць Бога, бліжніх, сяброў, таму асноўны ўхіл робіцца на супольнае жыццё ў адзінай сям'і. Спадарыня Бухаленка лічыць свой цяперашні занятак Божым паклізаннем і хоча прысвяціць сябе гэтай працы. Зараз яна са сваімі сяброўкамі збіраецца стварыць некалькі малітоўных дзіцячых груп, заснаваных па прынцыпе хатняга Касцёла, і з гэтай мэтай вывучае досвед іншых суполнасцяў. Хоча яна наладзіць і маладзёжныя хрысціянскія сустрэчы. Пакуль з беларускамоўнымі дзецьмі пры навагрудскім касцёле працуе толькі чатыры чалавекі, але Ларыса спадзяецца, што настаўнікаў навукі рэлігіі ўсё ж будзе больш, і тады дзіцячыя групы пашырацца колькасна. Зараз значную падтрымку ім аказвае каардынатар руху “Святло жыцця” ксёндз Казімір Совіж з Нямеччыны, а таксама браты і сёстры з Польшчы, Галандыі і іншых еўрапейскіх краінаў. Сп. Бухаленка спадзяецца, што з Божай дапамогай ім удасца заснаваць у Навагрудку экуменічны хрысціянскі цэнтр, у які маглі прыходзіць дзеці і моладзь розных канфесій ці нават тыя, хто не вызначыў для сябе нейкай пэўнай дэнамінацыі, але шчыра шукае спаткання з Хрыстом. А гэтым летам на вучобу ў Польшчу ўжо запрошана 50 навагрудскіх дзяцей. Гэтая паездка, лічаць настаўнікі, павінна быць вельмі карыснай, бо дзеці зноў акунуцца ў атмасферу вялікай міжнацыянальнай хрысціянскай сям'і, дзе пануе любоў, каб потым набыты досвед выкарыстаць для працы на Бацькаўшчыне.

**Януш ГАБІНСКІ.**

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## “...Иде Ольга въ Греки...”

*(Заканчэнне.)*

### Прыём у імператара

Дзеля правільнага разумення вынікаў пасольства кіеўскай княгіні ў Бізантыю, трэба ведаць, як адбываліся цырымоніі прыёмаў у імператарскім палацы.

Звычайна замежнага пасланніка падводзілі да імператаравага трона два еўнухі, трымаючы яго пад рукі. Там госць мусіў выканаць г. зв. праскінэзу — ён падаў ніц да ног імператара, а пасля мусіў тройчы схіліць галаву. Гутарку імператар вёў седзячы, а паслы — стоячы. Толькі ў выключных сітуацыях госцю дазвалялася сядзець, дый то на больш нізкім крэсле.

Княгіня Вольга ведала пра гэтыя ўмовы, а разлічваць на нейкія прывілеі не магла, бо была ўладаркай паганскай, да таго ж, фактычна варожай дзяржавы. Але яна вымушаная была ехаць у Канстанцінопаль.

Трэба згадаць, што пасольства кіеўскай княгіні чакала прыёму ў імператара больш за два месяцы. Гісторыкі розна тлумачаць такую затрымку. Згадваюць пра фармалізм, пра падазронасць імперскіх чыноўнікаў. Ды, відаць, сама значнай прычынай было жаданне даць зразумець рускай княгіні, што яна мае значна ніжэйшы статус у параўнанні з імператарам.

Княгіня Вольга мужна перанесла такое прыніжэнне, што сведчыць пра надта важную мэту, якую павінна было дасягнуць гэтае пасольства. І як бы даследнікі ні вызначалі яе, ці акцэнтуючы ўвагу на палітычных аспектах, ці вылучаючы на першы план хрышчэнне Вольгі, яна імкнулася атрымаць падтрымку дзеля хрысціянізацыі Русі.

На прыкладзе суседзяў, якія ўжо афіцыйна прынялі за дзяржаўную рэлігію хрысціянства, можна было пераканацца, што новая вера дае значную перавагу сама перш самім уладарам. Дзяржаўная рэлігія наогул умацоўвае становішча кіраўніка дзяржавы. Асабліва яскравым быў прыклад суадносінаў імперскай улады Бізантыі і Канстанцінопальскай царквы, якая цалкам была падначаленая імператару і выконвала ягоныя палітычныя памкненні. (Пазней такое верхавенства дзяржавы над царквой назавуць цэзарапапізмам, г. зн. калі цэзар, імператар, замяняе сабою галаву царквы. Дый наогул бізантыйскі манарх лічыўся намеснікам Бога на зямлі).

У палітыцы хрысціянізацыі суседніх дзяржаваў і народаў вызначальная роля належала імператару. Менавіта таму кожны народ, які прымаў хрысціянства ад канстанцінопальскага імператара, станавіўся васалам Бізантыі, палітычна залежным ад яе. Але для Кіеўскай Русі такая перспектыва ўяўлялася надта далёкай ці наогул нерэальнай, таму на яе не зважалі, рыхтуючы пасольства. Галоўнае — дамагчыся свайго.

Даследнікі, хаця і маюць сведчанні рускіх летапісаў ды заходнееўрапейскіх храністаў, не могуць аднаназначна сказаць, як жа сустракалі княгіню Вольгу ў імператарскім палацы. Паводле версіі рускага летапісца Канстанцін VII быў уражаны прыгажосцю і розумам кіеўскай княгіні. Таму, маўляў, яна не мусіла падаць на калені, яе пасадзілі за стол імператарскай сям'і, яна гутарыла з манархам седзячы. Урэшце, Канстанцін VII сам яе хрысціў у галоўным храме імперыі, даючы ёй імя Елена. (Так называлася маці Канстанціна І Вялікага, які першым з імператараў хрысціўся ды зрабіў хрысціянства афіцыйнай рэлігіяй Рымскай імперыі.) На падставе гэтых фактаў гісторыкі робяць выснову: такое хрышчэнне кіеўскай княгіні пацвярджае вялікі аўтарытэт Кіеўскай Русі ды сведчыць пра глыбокі палітычны змест такога важнага акта.

### Вынікі заморскага пасольства

Звесткі пра хрышчэнне Вольгі ў Канстанцінопалі трапілі і ў заходнееўрапейскія хронікі. Прыкладам, у нямецкай (г.зв. Працягу хронікі абата Рэгінона Прумскага) пра кіеўскую княгіню згадваюць, што яна "... пры Рамане, імператары Канстанцінопальскім, хрысцілася ў Канстанцінопалі..." Але ж хрысціў яе, як даводзяць рускія летапісы, Канстанцін VII, а ягоны сын Раман царстваваў у візантыі пазней. Захавалася паведамленне ў кнізе "Пра цырымоніі бізантыйскага двара", запісанае самім імператарам Канстанцінам VII, які і прымаў рускае пасольства. Ён і слоўкам не абмовіўся пра хрышчэнне Вольгі, хаця даволі падрабязна паведаміў пра два прыёмы, наладжаныя кіеўскай княгіняй.

Не выпадкова, відаць, вядомы савецкі гісторык Б.Д.Грэкаў, аналізуючы вынікі рускага пасольства ў Канстанцінопалі, абышоў пытанне пра хрышчэнне княгіні Вольгі. Зрэшты, таму і з'явілася меркаванне, што сваю паездку ў Канстанцінопаль Вольга задумала выключна дзеля палітычных мэтаў. Але ў такім выпадку бізантыйскі манарх і кіеўская госця не маглі не закрануць тэмы хрысціянізацыі Русі. У летапісе згадваецца, што Вольга скардзілася патрыярху: “Людье мои пагани и сын мой, дабы мя Богъ съблюль от всякого зла”. А калі Канстанцін VII і Вольга, ужо як бацька і “дщерь” (пры хрышчэнні Канстанцін “нарек ю дъщерью собе”), гутарылі, то не маглі не закрануць і тэму хрышчэння княгінінага сына Святаслава ды магчымасць дынастычнага шлюбу кіеўскага княжыча з бізантыйскай прынцэсай. Але ў Канстанцінопалі ведалі пра стаўленне Святаслава да хрысціянства. І не выпадкова, відаць, пазней Канстанцін VII перасцерагаў сына Рамана не дапускаць шлюбаў з “варварамі”.

А калі згадваць пра верагодныя палітычныя вынікі пасольства, дык ці наогул можна гаварыць пра аўтарытэт паганскай дзяржавы ў тагачаснай хрысціянскай Еўропе?

Нельга сказаць, што пасольства княгіні Вольгі было безвыніковым. Яна ўбачавідкі магла пераканацца, што спадзяванні на дапамогу канстанцінопальскага імператара марныя. Верагодна, Бізантыя сама была ў цяжкім стане: ускладніліся адносіны з арабамі і непазбежная была вайна. І пазней Кіеў пашле ў Канстанцінопаль сваіх воінаў. Але ўзамен не атрымае нічога. Магчыма Канстанцін VII за згоду дапамагчы ахрысціць Русь паставіў нейкую непрымальную ўмову. Вольга, да таго ж, не магла не ведаць: балгарскі цар Барыс І, які яшчэ ў 864 — 865 гадах прыняў хрысціянства і пад націскам Канстанцінопаля амаль прымусам ахрысціў свой народ, праз гэта стаў васалам Бізантыі. Далейшыя ягоныя спробы дамагчыся незалежнасці балгарскай дзяржавы ад Канстанцінопаля не далі вынікаў. Імператар адмовіўся даць Балгарыі незалежнага епіскапа. І цар Барыс І вымушаны быў звярнуцца непасрэдна да Рымскага папы.

Верагодна, Вольга прасіла ў Канстанціна VII тое ж самае — незалежнага епіскапа. Але бізантыйскі імператар толькі ў цырымоніі прыёму зрабіў палёгку дзеля госці. А ў дзяржаўнай справе не мог адступіцца ад асноўнага крэда: выкарыстоўваць хрысціянізацыю краіны дзеля ўмацнення палітычнага ўздзеяння на яе.

З Канстанцінопаля Вольга вярнулася ні з чым. Але ж яе задума патрабавала вырашэння, пакуль не падрос сын і княгіня яшчэ мела ўладу. І ёй нічога не заставалася, як толькі звярнуцца па дапамогу да нямецкага караля Атона І.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

## Ці будзе пераадолены раскол?

Праблема расколу заўжды востра стаяла перад хрысціянскай Царквой з першых стагоддзяў яе існавання. У яго аснове ляжала не столькі разыходжанне ў дагматыцы (гэта было часцей прыкрыццём), колькі непамерныя амбіцыі асобных царкоўных ерархаў. Наступствы найбольш вялікіх расколаў, ці, як іх яшчэ называюць, схізмаў, — такіх, як падзел на Усходнюю і Заходнюю Цэркву у 1054 годзе, альбо абвяшчэнне 95 тэзісаў Лютэра ў 1517 годзе, — хрысціяне не ў стане пераадолець да цяперашняга часу. Пыха і амбіцыі некаторых лідэраў дзейнічаюць мацней за словы Хрыста: “Каб былі ўсе адно”.

Адзін з значна драбнейшых, але не менш балючых расколаў адбыўся ў Каталіцкім Касцёле ў 60-я гады XX ст., пасля II Ватыканскага Сабора, які абвясціў курс на большую рэлігійную свабоду, мадэрнізацыю Царквы, абнаўленне яе сацыяльнага вучэння і экуменічны дыялог з прадстаўнікамі іншых рэлігій. Ініцыятарам непрыняцця новай дактрыны касцёла стаў арцыбіскуп Марсэль Лефэбр, які з групай сваіх прыхільнікаў адкрыта выступіў супраць усіх нававядзенняў і коратка сфармуляваў сваю пазіцыю наступным чынам: “Будучыня Каталіцкага Касцёла ў яго мінулым”. У свой час монсіньёр Лефэбр служыў у французскіх каланіяльных валоданнях у Афрыцы. Яго адносіны да мясцовых мурынаў можна ахарактарызаваць, як неадназначныя, бо, з аднаго боку, ён уласнаручна высвяціў некалькі чарнаскурых святароў, але, з другога боку, падтрымліваў некаторыя расісцкія погляды, за якія нават быў асуджаны французскім судом.

Лефэбра актыўна падтрымлівалі некаторыя ультраправыя арганізацыі на Захадзе, у прыватнасці, Французскі Нацыянальны Фронт Жана Мары Ле Пэна. У 1970 годзе ён заснаваў у швейцарскім гарадку Экон духоўную семінарыю для падрыхтоўкі святарскіх кадраў каталікоў-традыцыяналістаў, якая потым стала звацца “Брацтвам імя святога Пія X”. Зараз у свеце жыве каля 300 святароў традыцыяналістаў і некалькі соцень семінарыстаў. За самаасобнае высвячэнне ў 1987 годзе на біскупаў чатырох чалавек Марсэль Лефэбр быў адлучаны ад Касцёла. Апошнія гады традыцыяналісты пачалі больш актыўна дзейнічаць у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Заснаваныя іх місіі-прыраты і парафіі ў Польшчы, Украіне, Аўстрыі, Летуве. Больш года дзейнічаюць дзве традыцыйныя парафіі і ў Менску, якія афіцыйна зарэгістраваныя ў Камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, чаму, дарэчы, моцна супраціўляліся ерархі Беларускага афіцыйнага Касцёла. На жаль, сустрэцца з самімі вернікамі гэтых парафіяў не ўдалося, бо яны ў катэгарычнай форме адмовіліся сустракацца з карэспандэнтам радыё “Свабода”. Прыйшлося пайсці іншым шляхам і сустрэцца з адным з святароў-традыцыяналістаў, які афіцыйна прыехаў у Менск з гуманітарнай дапамогай у рамках супрацоўніцтва з беларускім Чырвоным Крыжам. Пасля доўгіх хістанняў ён вырашыў адказаць на мае пытанні пры ўмове, што яго голас не будзе гучаць у эфіры. Ён паведаміў, што традыцыяналісцкая абшчына ў Менску яшчэ вельмі малая колькасна, але, тым не менш, ужо заснаваныя дзве парафіі. Відаць, такім чынам традыцыяналісты спадзяюцца на больш хуткае папаўненне сваіх шэрагаў. Кожная парафія налічвае па 15 — 20 чалавек. Гэта ў асноўным нэафіты, якія самі прыйшлі да старога, дасабораўскага каталіцкага вучэння, але часам трапляюцца і людзі з каталіцкіх сем'яў. Большасць парафіянаў складаюць людзі маладога і сярэдняга веку з асяродка творчай інтэлігенцыі. Як мне ўдалося высвятліць, сярод іх нямала студэнтаў кансерваторыі, якіх прывяла да традыцыяналістаў любоў да старой касцёльнай музыкі, Рыгарыянскага харалу і г. д. Святар спадзяецца, што з цягам часу парафіі будуць расці колькасна, хаця гэта і не галоўная мэта, гаворыць святар і прыводзіць прыклад толькі 12 Апосталаў, якія пайшлі за Езусам. Відаць, традыцыяналісцкія цэнтры паважна ўзяліся за Усход Еўропы, бо толькі рэлігійнай літаратуры на расійскай і польскай мовах выдаецца ў год некалькі дзесяткаў тысяч асобнікаў.

Святар наракаў, што парафіі існуюць без пастыраў, а ён як замежны грамадзянін не мае права займацца на тэрыторыі Беларусі рэлігійнай дзейнасцю. Праўда, ёсць надзея на двух маладых беларусаў, якія вучацца ў Аўстрыі і Нямеччыне, але гэта, відаць, будзе не хутка. А пакуль з пэўнай рэгулярнасцю прыязджаюць ксяндзы з Польшчы, Аўстрыі, Швейцарыі і праводзяць набажэнствы і духоўную вучобу ў сваёй прыватнай капліцы.

Мы яшчэ доўга размаўлялі са святаром пра тое, што яшчэ непрымальна для каталікоў-традыцыяналістаў у цяперашняй афіцыйнай дактрыне Ватыкана. Побач са смешнымі перакананнямі ў непатрэбнасці правядзення імшы на нацыянальных мовах, бо нібыта лаціна — гэта “святая мова” ў традыцыяналістаў, справядліва абураюць не вельмі прыстойныя паводзіны асобных афіцыйных святароў, празмерны экуменізм і іншыя рэчы, якія могуць прынесці людзям больш шкоды, чым карысці. Крытыкуючы цяперашняга папу, яны прызнаюць яго за галаву Касцёла. У сваю чаргу і Ватыкан не раз заяўляў, што для традыцыяналістаў дзверы Касцёла заўжды адчыненыя. Значыць, раскол не настолькі глыбокі. Калі ж наступіць паяднанне?

А ў бліжэйшых планах традыцыяналістаў стаць выданне штоквартальнага часопіса для Беларусі.

**Язэп СІНІЦКІ.**

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

**Францішак Багушэвіч.**

Беларускае адраджэнне

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# Балада ў В. Дуніна-Марцінкевіча

У аснову адной з лепшых балад В.Дуніна-Марцінкевіча "Травіца брат-сястрыца" пакладзены сюжэт, які сваё існаванне пачынае ледзь не з першабытна-радавой фармацыі — цалібат (забарона) на шлюб брата і сястры.

Здаецца, твор павінен быў пачацца з рамантычнага апісання прыроды, якая б прадказвала небяспеку, як гэта было ў ранейшых баладах. Але, пазбаўляючыся бытавой дэталізацыі і храналагічнай падзейнасці, змяншаючы цяжар эпічнага разгортвання, аўтар задае своеасаблівую настраёвасць твору ў эпіграфе, узятым з мясцовай вясельнай песні, якая, дарэчы, сама па сабе ў нечым нагадвае народную баладу:

*Хочаш ты з дворкай жаніцца?*
*Ідзі лепш; братка, тапіцца!*
*З нядзелі на панядзелак*
*Данілку бяда стала, —*
*Маляваная скрыня прапала,*
*Прапала скрыня малявана,*
*Дачушка кахана.*
*Я тую скрыню маляваную*
*За дзень прызабуду.*
*Сваёй дачушкі каханай*
*Павек не забуду!*

Гэты эфект кальцавой кампазіцыі — балада ў прадказанні балады выкарыстаны аўтарам, каб надаць твору нейкую глыбінную народную філасафічнасць, адчуванне жыцця як спрадвечнай прытчы прадвызначэння. Мабыць, вельмі не хацелася аўтару, каб яго твор у нечым нагадваў жорсткі гарадскі раманс, і таму ён паглыбіў прытчавае гучанне ў паліфаніі гэтай немалой па памеры балады.

Гэтая балада В.Дуніна-Марцінкевіча нават не імкнецца наблізіцца да паэмы, мабыць, дае знаць аб сабе ўласна змест, а таксама тое, што вобразы (героі) падаюцца з сімвалічнай адналінейнасцю і псіхалагічнай статычнасцю, ледзь не дзвюма-трыма рысамі...

Відавочна, трохі зацягнутая экспазіцыя баладнага дзеяння прыводзіць да даволі дынамічнай развязкі:

*Гоман, крык зрабіўся ў Божым касцёле,*
*Дарма сталі дзеўку вадою крапіць;*
*Вось якой прыгодай кончылася вяселле.*
*Што ж зрабіў Мірончук? Ён, маўляў, збясіўся,*
*Уцёк і з касцёла, к Случы падбяжаў,*
*Пры берагу шчыра Богу памаліўся*
*І, як цяжкі камень, у воду ўпаў!*

Заключны дыялог-кульмінацыя дзеяння амаль заменены маналогам гераіні, а гэта ўжо адзнака сталай літаратурнай моўнай традыцыі.

Дарэчы, потым у пазнейшых ліра-эпічных творах паэта неаднойчы назіралася барацьба паміж баладай і паэмай, як жанравымі стылямі.

Узорам дасканалага мастацкага твора з'яўляецца і гістарычнае вершаванае апавяданне-балада "Славяне ў XIX стагоддзі". Твор паўстае амаль з першых радкоў у арэоле старадаўняга славянскага падання часоў велічнай і трагічнай барацьбы сербскага народа супраць сваіх турэцкіх прыгнятальнікаў.

Зачароўваюць радкі апісання прыгажосці Сары Міхаэлі, пабудаваныя з выкарыстаннем адмоўнага паралелізму:

*Золак вясновы дзівосна іскрыцца,*
*Але куды прыгажэй чараўніца;*
*Неба ўпрыгожана яснаю сінню,*
*Але яснейшыя вочы дзяўчыны;*
*Зорка яскравая свецціца ўночы,*
*Ды яскравейшы прамень яе вочак...*

# Шыпшына цвіла спрадвеку

Спадарыня Алена Яскевіч добра і цікава расказала ў сваіх артыкулах "Не як садовы ружовы куст, а як вольная шыпшына" ды "Балады Яна Чачота" пра станаўленне жанру балады ў беларускай літаратуры. Вядома, магчымасці газеты абмежавалі памеры паведамлення. Ды і нельга даць звесткі пра ўсе творы гэтага жанру. А ён у нас надзвычай багаты. Дастаткова згадаць том "Балады" з серыі БНТ ды кніжку "Беларускія балады". Няма чаму, зрэшты, дзівіцца: за шматтысячагадовую нашую гісторыю іх было створана вельмі многа. Нашыя балады, як і казкі ды песні, маюць свае вытокі ў індаеўрапейскай культуры.

Ды ўсё ж хочацца тое-сёе ўдакладніць. Даследнікам перш варта звярнуць увагу на пэўныя творы Юльяна Урсына Нямцэвіча, Касцюшкавага земляка і паплечніка, ягонага паўстанцкага сакратара. Творчасць гэтага берасцейскага шляхціча, мяркую, належыць і нашай літаратуры. Менавіта ягоныя балады, як падае віленскі літаратуразнаўца Т.Цяшэўскі, "схаваныя пад архаічнай назвай думаў, з'яўляюцца... у 1803 годзе". Як мяркуюць, Нямцэвіча натхнілі англійскія балады, адкуль ён "пазычаў" герояў ды матывы.

Пад уплывам аднаго з такіх твораў, а менавіта балады пра рыцара Алонса — "Alonzo the Brave and Faik Imogine" ("Алонса харобры і справядлівая з'ява" — ?), — відаць, і напісаў сваю "Ленору" знакаміты Г.А.Бюргер (1747 — 1794).

Не засталіся абыякавымі да "Леноры" паэты-рамантыкі філамацкага кола. Першым адгукнуўся Тамаш Зань (Зан). Ягоныя балады "Нерына" (упершыню чытаў яе сябрам-філаматам 9 чэрвеня) ды "Твардоўскі" (дэкламаваў яе ў дзень нараджэння Адама Міцкевіча) датуюцца 1818 годам. Неўзабаве з'явіліся новы твор Т.Заня "Цыганка" і балада "Каміла і Леон" Крыстына Шырмы, таксама студэнта Віленскага універсітэта. (Ягонае прозвішча выдае паходжанне). У ліпені 1819 года Ян Чачот напісаў свайго "Бекеша". Поспеху маладых літаратараў пазайздросціў і Ю.У.Нямцэвіч. У 1920 годзе была надрукаваная ягоная "Мальвіна". Як бачым, не было патрэбы спадарыні Алене Яскевіч пісаць: "Беларуская балада, зразумела, узнікла пазней, недзе ў 20 — 30-х гадах XIX стагоддзя з распаўсюджваннем у Польшчы і Расіі рамантызму".

Цалкам верагодна, што папулярызаваць творчасць Бюргера пачаў Адам Міцкевіч, які ведаў нямецкую мову і цікавіўся нямецкай літаратурай ды чытаў нямецкіх паэтаў у арыгінале. Ён убачыў і ацаніў вялікія магчымасці новага жанру. А нібы позняе з'яўленне Міцкевічавых баладаў той жа Т.Цяшэўскі тлумачыць тым, што яго апярэдзіў Антон Эдвард Адзінец, які пераклаў Бюргераву баладу "Der Wilde Jäger. Да першага яе — пад назвай "Mysliwiec" — выдання ў Вільні (1822 год) А.Міцкевіч напісаў біяграфію нямецкага паэта.

Безумоўна, Адам Міцкевіч спрычыніўся да паэтычнай кар'еры сябра, якому даваў парады. Але не гэта стрымала напісанне падобных твораў. Адам Міцкевіч у тую пару быў заняты працай над "Дзядамі", у якіх, дарэчы, ёсць некалькі частак, што ўяўляюць сабою балады. Але, верагодна, і не гэта перашкодзіла паэту. Адам Міцкевіч, стваральнік надзвычай арыгінальных, адметных твораў ужо ў той час ведаў цану свайму таленту, меў высокае пачуццё годнасці і не мог сабе дазволіць проста перарабіць-перакласці творы Бюргера. Ён пайшоў іншым шляхам.

Для свайго першага твора баладнага жанру Адам Міцкевіч выкарыстаў некаторыя матывы той жа "Леноры". Але як пісаў пазней, баладу "Уцёкі" ён стварыў, маючы ў памяці беларускую народную песню, якую чуў калісьці на роднай Навагарадчыне. Менавіта з беларускай народнай балады паходзіць сюжэт "Уцёкаў" ды некаторыя матывы, што маглі перайсці ў літаратурны твор толькі з беларускага фальклору. Гераіня балады Адама Міцкевіча звяртаецца да кумы-вядзьмаркі, што сваімі чарамі выклікае дух каханага. (Амаль як у "Дзядах"). Вядзьмарцы "дапамагаюць" папараць-кветка, цар-зелле, заклінанне на вужа, а таксама чарадзейныя — кабалістычныя? — лічбы: дзесяць (скал), дзевяць (гор)...

Нават паводле такой асаблівасці Міцкевічавы "Уцёкі" толькі ўмоўна можна залічыць у шэраг баладаў, створаных пад уплывам "Леноры". Адметным, самастойным творам можна лічыць "Уцёкі" яшчэ і таму, што Адам Міцкевіч фактычна рэканструяваў аснову Бюргеравай "Леноры" — класічны грэцкі міф (пра фесалійскага царэвіча Пратэсілая ды ягоную жонку Лаадамію), у якім за дапамогай чараў герой вяртаецца да жонкі на адну ноч, так, як і рыцар да сваёй каханай у беларускай баладзе. А вось Бюргер не выкарыстаў гэты матыў у сваёй "Леноры". Так праз талент Адама Міцкевіча выяўленая генетычная роднасць беларускай народнай балады і грэцкага міфа. Мяркую, даследнікі знойдуць гэты твор нашага фальклору, а таксама іншыя балады, што сталі асновай літаратурных твораў.

Як бачым, нездарма Алена Яскевіч згадала параўнанне балады з "вольнай шыпшынай". Толькі трэба памятаць, што дзікая ружа цвіла спрадвеку, а не толькі пасля "распаўсюджвання ў Польшчы і Расіі рамантызму".

**Пётра ПАШКАВЕЦ.**

Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"

# Леснікова пасада

## І.Прынямонская Ітака

*(Працяг.)*

*Omnia mea mecum porto*
**Біянт, іанійскі мудрэц.**

"... і людзі, дзе нарадзіліся,.. да таго месца вялікую ласку маюць". Наш славуты першадрукар палымяна любіў сваю Бацькаўшчыну і ў гісторыі чалавецтва шукаў выразныя праявы такіх пачуццяў, каб выхаваць чытачоў Бібліі патрыётамі. З такою ж мэтай складаў "песенькі" Янка Купала, які вуснамі лірычнага героя свайго верша "Гэта крык, што жыве Беларусь!.." прызнаецца ў любові да "гарыстае... камяністае" Бацькаўшчыны. І птушкі штогод вяртаюцца з выраю — раю. Толькі каменне і валуны, што прынёс да нас ледавік, ляжаць паўз дарог.

*Не раз, утомлены дарогай,*
*жыццём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю.*

Не раз... Не адзін раз вязень Менскай турмы вяртаўся ў думках да роднага Панямоння. Асабліва цяжка было на душы, відаць, святочным днём. Магчыма таму і напісалася перш "Раніца ў нядзельку". **Сёмым** днём чэрвеня пазначаны гэты раздзел, названы расказам. Але паступова — "не раз... я ў думках залятаю" — праз душэўныя пакуты ў паэта з'яўляецца задума эпічнага твора, які павінен складвацца паводле законаў гэтага класічнага жанра. Першыя, ужо напісаныя радкі будучай паэмы адыходзяць на другі план — з'яўляецца prooimion (уступ) — раздзел "Леснікова пасада" — які, згодна з "Рыторыкай" славутага Арыстоцеля, з'яўляецца паказальнікам зместу твора, каб чытачы ведалі, пра што будзе гаворка.

Менавіта антычную эпічную паэзію бярэ настаўнік Кастусь Міцкевіч за ўзор. Толькі ва ўступе паэмы "Новая зямля" паэт-апавядальнік дазваляе сабе гаварыць ад свайго імя. Далей, як, зрэшты і аўтар Іліяды і Адысеі, за "апяянымі" дзеямі сваіх герояў амаль цалкам знікне, дазваляючы зрэдку слоўца ад сябе — свае ўражанні ад "дарогі" — жыццёвага шляху.

"Утомлены дарогай"... Традыцыйны для літаратуры матыў, які вельмі часта сустракаецца ў міфах.

І паводле народнага ўяўлення, нашай міфалогіі дарога атаесамляецца з лёсам чалавека! "Птушыная дарога" — так прашчуры назвалі зорны пас на небе — гэта нібы шлях у вырай, у іншы свет. Матыў дарогі-лёсу выразна праявіўся і ў назве другога вялікага твора Якуба Коласа — трылогіі "На ростанях".

Кастусь Міцкевіч наступным радком паэмы — ***жыццём вясны мае убогай*** — нагадаў свой тагачасны незайздросны лёс. Вясновы — юнацкі — шлях маладога настаўніка не выпадкова вызначаецца эпітэтам "убогі". Гэта сінонім слову жабрак. (У паэме "Сымон-музыка": крэкча, дзякуе убогі. Цікавай падаецца такая дэталь у Гамера: Адысей пасля шматгадовага блукання прыходзіць жабраком у свой дом, дзе гаспадарацъ аматары чужога). Вясна-маладосць паэта, які станавіўся на адраджэнскі шлях, азмрочаны ўяўленнем такога ж стану роднага краю, дзе гаспадарацъ чужынцы. Каб стаць гаспадаром на зямлі, трэба было абраць сваю дарогу — цяжкі жыццёвы шлях.

Роднае Прынямонне — лясная Ітака — уяўлялася зняволенаму паэту Выраем, краінай Раю. У тым родным краі ёсць крыніца жывой вады — пра гэта ведаў Максім Багдановіч. "Зямля маіх бацькоў, мяжа Пялопава, Паклон табе!" — так вітаў Бацькаўшчыну Талеф, герой аднайменнай Еўрыпідавай трагедыі, які вярнуўся да сваіх пенатаў на Пелапанесе, каб вылечыць рану. І праз дзве з лішнім тысячы гадоў малады беларускі настаўнік у марах "залятаў" у Панямонне і там "душою спачываў", лячыў свае душэўныя раны.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*(Працяг будзе.)*

Жывое слова

Алесь КАЎРУС

# Створым слова

Творчы заказ? А чаму не. Колькі хочаце можна згадваць прыкладаў, калі яго (заказу) вынікам сталі добрыя фільмы, песні, кнігі, артыкулы і... словы. З фактычным заказам на словы і яго выкананнем сустракаемся ў працы навуковай і выдавецкай, дзе часта ўзнікае патрэба ў тэрміне, якога дасюль не было. Такая з'ява актывізавалася апошнімі гадамі — распачалася падрыхтоўка слоўнікаў з розных галін ведаў. Пры гэтым адбываецца як пошук новых слоў-тэрмінаў, так і лінгвістычнае дасканаленне ўжо наяўных. Ёсць словы з пэўнымі хібамі і ў сферы агульнаўжывальнай лексікі.

На маё разуменне, такое слова — прыметнік *маладзёжны*. Ён успрымаецца як жыўцом перанесены з рускай мовы. Надта ж непрыхавана, выяўна гучыць у ім *маладзёж*, надта ж коле (і не толькі ў вока) гэты небеларускі *-ёж*! А вось як разглядаецца гэтае слова на навукова-аб'ектыўным, неэмацыянальным узроўні: "*Маладзёжны*. Узыходзіць да рускага *молодежный*, утворанага ад *молодёжь*, якому адпавядае беларускае *моладзь* без суфікса *-ёжь*, які ў беларускай мове ўвогуле адсутнічае. Наяўнасць жа гэтага суфікса ў слове *маладзёжны* і парушаная паслядоўнасць словаўтварэння (параўнай *молодёжь* — *молодёжный* і *моладзь* — *маладзёжны*) гаворыць аб пазычанасці гэтага слова з рускай мовы".*

Упершыню падае прыметнік *маладзёжны* "Руска-беларускі слоўнік" (Мн., 1937) пад рэдакцыяй А.Александровіча.

Адзін дасціпны аўтар, пісьменнік, калі гаворка зайшла пра слова *маладзёжны*, сказаў, што тут няма праблемы: льга так пабудаваць словазлучэнне (сказ), каб не было патрэбы ўжываць прыметнік. Напрыклад, *тэатр моладзі* (рус. *молодёжный театр*), *касцюмы на (для) маладых* (рус. *молодёжные костюмы*), *саюз моладзі* (рус. *молодёжный союз*).

А калі спатрэбіцца перакласці *молодёжная политика, станция Молодёжная*? Напэўна, не абысціся без прыметніка. Значыць, трэба шукаць.

*Моладзевы*? Слова мае беларускае гучанне, у ім выразна прамаўляецца і чуваць утваральная аснова *моладз'*. Праўда, як наватвор, яно нязвыклае. Цяжкаватае і на вымаўленне: у ім тры паслянацісковыя склады. Але ў прынцыпе гэта не парушае акцэнталагічных і словаўтваральных заканамернасцяў беларускай мовы. Параўн. падобныя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў: *магутнасцевы (магутнасць), пошасцевы (пошасць), роспачлівы (роспач), досвіткавы (досвітак).*

Лягчэйшыя ў карыстанні варыянты *маладзёвы* і *моладзьны* (паводле мадэлі вельмі блізкі да пазычанага *маладзёжны*).

Беларускае словаўтварэнне дапускае іншыя прыметнікі: *маладзенскі, маладзянскі, маладзьнянскі, маладнянскі, моладзенскі, моладзеўскі, маладняцкі (ад маладняк)*...

Напачатку маглі б ужывацца паралельна некалькі прыметнікаў — да часу замацавання аднаго з іх як літаратурнай нормы.

Галоўнае цяпер, каб як мага больш людзей — носьбітаў беларускай мовы ўсвядомілі, што прыметнік *маладзёжны* не адпавядае заканамернасцям беларускага словаўтварэння. Гэты этап на шляху ўсталявання новага слова, бадай, самы цяжкі, але цяжкасць не падстава, каб пазбягаць пастаноўкі праблемы.

Міжволі падумалася. Дзівосы словатворчай дасціпнасці і ўмельства паказваюць нашы паэты і празаікі, а таксама журналісты. Каб жа яны далучыліся да гэтага пошуку!

Прыкладна такі абразок пра словы *маладзёжны*, *моладзевы* гады тры — чатыры назад склаўся ў артыкуле для перыядычнага выдання. Спасцярожлівы рэдактар далікатна абвёў гэтую старонку-паўтары алоўкам з надта зразумелым пажаданнем...

І ўсё ж я не раз у думках вяртаўся да "незавершанай" тэмы. А нядаўна (8.09.96) на мітынгу пашчасціла пачуць: "**Моладзевы** камітэт... звяртаецца да юнакоў і дзяўчат з просьбай дапамагчы нам".

І вось ужо сустракаем слова *моладзевы* на газетнай старонцы: Гарадзенскі **Моладзевы** прэс-клуб запрашае моладзь да працы ў клубе ў якасці пазаштатных карэспандэнтаў і выдаўцоў **моладзевай** газеты "Творчы момант" ("Пагоня". 1997, №5).

Прыемнай спадзяванкай парадавала "Наша слова" (1997, №10). У артыкуле У.Панады шмат разоў ужыты прыметнік *маладзёвы*. Напрыклад:... 16 снежня 1996 года прадстаўнікамі 14 **маладзёвых** арганізацыяў, суполак і **маладзёвых** фракцый палітычных партыяў Беларусі.. утвораны арганізацыйны камітэт Другой сустрэчы беларускай моладзі свету.

Выходзіць, не аднаго мяне турбуе ўжыванне русізму **маладзёжны** і яго беларускіх адпаведнікаў. З гэтага моманту я канчаткова наважыўся выступіць у друку з сваімі меркаваннямі і прапановамі.

**)Крукоўскі Н.І. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Мн., 1958. С.63.*

## Спорт

### Культурызм — гэта бодзібілдынг, а прасцей — "магутныя мускулы"

Культурызм за апошнія дзесяцігоддзі стаў адным з самых папулярных відаў спорту ва ўсім свеце. Тым не меней: пакуль тут пераважаюць еўрапейскія атлеты. Пра гэта сведчыць хаця б той факт, што на іх долю ў апошнія гады дастаецца каля 70 працэнтаў медалёў пад час сусветных спаборніцтваў. Таму асабліва прыемна, што сталіцай чарговых буйнейшых спаборніцтваў па бодзібілдынгу журы Міжнароднай федэрацыі вызначыла Менск. Спаборніцтвы адбудуцца з 23 па 26 траўня ў сталічным Палацы спорту, куды з'едуцца каля 400 прадстаўнікоў з 40 краін. А выбар Менска, як адзначыў на прэсканферэнцыі віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі бодзібілдынгу Рафаэль Сантонья, зроблены галоўным чынам таму, што беларускія культурысты высока каціруюцца ва ўсім свеце.

### Футбол — вясне пачатак

Усе віды спорту вартыя павагі, але адным з самых любімых шырокай публікай, безумоўна, застаецца футбол. З пачаткам футбольнага сезона для балельшчыкаў і пачынаецца сапраўдная вясна. Таму многія з іх ужо з імпэтам абмяркоўваюць календары і нацыянальнага чэмпіянату, і розыгрышу Кубка Беларусі, дзе маюць шанс футбалісты з розных ліг пазмагацца з самымі масцітымі майстрамі.

А пакуль што, прыкідваючы шансы камандаў у сёлетнім сезоне, спартыўныя каментатары і аглядальнікі разам з балельшчыкамі ўспамінаюць з асаблівым пачуццём павагі тыя каманды, якія, прайграючы па ходзе сустрэчы, усё ж у канчатковым выніку перамагалі дзякуючы сваім лепшым валявым якасцям. Змагацца за перамогу да апошняй мінуты — гэта і ёсць сапраўдны футбол!

Дарэчы, адзін з самых паважаных футбольных суддзяў Яўген Сярожкін на прапанову спартыўнага журналіста спрагназаваць раскладку сіл у сёлетнім чэмпіянаце адказаў: "За "золата" пазмагаюцца менскае "Дынама" і МПКЦ, за бронзу — "Белшына" і "Дынама-93".

### Гарадзенскія гімнасткі — першыя!

Закончыўся чэмпіянат Беларусі па спартыўнай гімнастыцы сярод жанчын. Да Алімпійскіх гульняў яшчэ амаль чатыры гады, а ўжо зараз ідзе прыкідка, хто трапіць у нацыянальную зборную. Таму і спаборніцтвы былі ўпартыя. Адначасова "прывыкалі" да новых, больш жорсткіх правілаў, якія ўжо будуць прымяняцца на розыгрышы Кубка Еўропы, што пройдзе ў канцы красавіка. Атрымаць цяпер дзевяцібалавую адзнаку становіцца значна складаней. Таму за час спаборніцтваў усяго 11 разоў з 160 магчымых і ўнеслі суддзі ў свае пратаколы гэты вынік.

А перамаглі ў камандным заліку першынства гарадзенскія гімнасткі. Уладальніцамі залатых медалёў сталі Алена Саўко, Таццяна Жарганава, Святлана Тарасевіч, Кацярына Антановіч і Аня Майсак. На другім месцы гімнасткі Менска, на трэцім — гамяльчанкі.

**Падрыхтаваў У. ВЕРАБЕЙЧЫК.**

*Сяргей Панізьнік*

## Кальчуга Слова

Я не мечнік ваяўнічы,
не крыжак напору злога.
Мне пасуе да аблічча
светлая кальчуга Слова.

Хто прамоўца — абаронца
ад нямоты-непагоды:
слова — промнічак лагоды,
мова — месячык і сонца.

Гукамі вясны лячуся, —
і глядзіць Айчына горда.
Я ў кальчузе, ты ў кальчузе:
мы — сумоўная кагорта!



**На фотаздымку** — аўтар у кальчузе, змайстраванай Любай і Міхасём Вераціламі з пасёлка Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гарадзенскай вобласці.

## Афарызмы

*Няма на свеце сцяны — якімі б не былі моцнымі яе каменні, — што магла б процістаяць волі і думцы чалавека.

*Жоржы Амаду.*

*Кожны чалавек адказны за ўсё, што творыцца на гэтым свеце.

*Мікалай Амосаў.*

*Няма для мяне павагі даражэйшай, чым павага чалавека, якога я сам больш за ўсіх за ягоныя заслугі паважаю.

*Апулей.*

*Кожны чалавек мусіць брацца пераважна за тое, што яму пад сілу і што для яго годнае.

*Арыстоцель.*

*Сапраўдны чалавек, што мае гонар і волю, атуляе сабою тых, каго гоніць бура.

*Мухтар Ауэзаў.*

*Цудоўна быць вялікім чалавекам і вялікім грамадзянінам.

*Анарэ Бальзак.*

*Нас яднае ўсё, што сама вышэй і сама важней для чалавека: свядомасць, ідэя і надзея.

*Анры Барбюс.*

*Чым мацней чалавек, чым вышэй ён маральна, тым смялей ён глядзіць на сваю слабіну і недахопы.

*Вісарыён Бялінскі.*

*Няма нічога цудоўней, чым несці шчасце людзям.

*Людвіг ван Бетховен.*

*Чалавек робіцца мудрым не сілаю, а шмат чытаючы.

*Джардана Бруна.*

*Цнота — сама вялікая каштоўнасць чалавека.

*Іван Вазаў.*

*Веліч краіны вызначаецца веліччу яе простых грамадзянаў.

*Томас Вудра Вільсан.*

*Хто не любіць волі і праўды, можа стаць уладарным чалавекам, але вялікім ён ніколі не будзе.

*Франсуа Вальтэр.*

**Выбраў З.С.**

## І смех і грэх

*Пачутае "У Лявона"*

### Кім быць?

Маладыя госці шынка гучна разважаюць, хто кім хоча быць. Лёля ўздыхае:

— А я хацела б быць карцінай і, як Джыяконда, вісець у карціннай галерэі...

— Але навошта?

— Вось тады я пачула б праўду пра сябе!

### Позняя размова

Апаўночы двое гасцей шынка гутараць у бары:

— І васпане не баіцца жаночай лаянкі, калі васпан вернешся так позна?

— Я халасцяк.

— О, каб я быў нежанатым, я даўно ўжо быў бы дома!

### Урачыстасць

Жонка пытаецца ў мужа:

— Як мы будзем адзначаць свой юбілей — сярэбранае вяселле.

— Хвілінай маўчання.

### Смакоцце

Жанчыны хваляцца: кожная смачнае падрыхтавала на свята:

— Я пякла пірагі з яблыкамі.

— А я — з ананасам.

— А я купіла звычайны торт і абліла яго мядоваю сытою — так нешта захацелася салодзенькага...

— А я, — прызнаецца сама маладая, — нічога асаблівага не пякла — у мяне муж харошы.

### Пакута

Бывалец шынка ўзрушаны навіной і пераказвае яе сябру:

— Ці чуў, Алесь сабраўся ў Жыровіцкі кляштар, кажа, мусіць адпакутаваць свае грахі.

— Ці ж там пакута? Вось каб ажаніўся!

### Спахапіўся

Госць шынка апавядае:

— Я сёння бачыў, як хавалі пісьменніка... Сябры неслі ягоныя кнігі.

На гэта ягоны сябра:

— Усё! Рашыў! З сённяшняга дня не буду выкідаць пустыя бутэлькі!

**Учуў З.С.**

## Даты і падзеі ў красавіку

**4** — 470 гадоў таму (1527) нарадзіўся Артэлій, фламандскі географ і выдавец, які выдаў першы геаграфічны атлас, дзе ў ліку 70 мапаў была і мапа Вялікага Княства Літоўскага.

— 440 гадоў таму (1557) нарадзіўся Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага, арганізатар Галоўнага трыбунала ВКЛ — найвышэйшага апеляцыйнага суда, пастановы якога мелі моц пастановаў сейма, ініцыятар падрыхтоўкі Статута літоўскага рэдакцыі 1588 года — фактычна Канстытуцыі сама перадавога на той час зводу законаў, у якім прадугледжвалася крымінальная адказнасць шляхціча за забойства простага чалавека. Рупнасцю і на сродкі Льва Сапегі Статут 1588 года быў выдадзены на беларускай мове, а пазней шмат разоў перавыдаваўся і перакладаўся на еўрапейскія мовы.

— 55 гадоў таму (1942) у Віцебскай вобласці была створаная 1-я Беларуская партызанская брыгада — М.П.Шмырова (бацькі Міная).

**5** — 755 гадоў таму (1242) на Чудскім возеры адбылася бітва войска Аляксандра Неўскага з крыжакамі, у якой удзельнічала і полацкая дружына на чале з Якавам Палачанінам.

— 275 гадоў таму (1722) на Вялікдзень галандскі адмірал Я.Рогевен пад час кругасветнага плавання (1721 — 23) прыплыў да невядомай зямлі ў Ціхім акіяне, якую пазней і назвалі выспай Вялікадня.

— 125 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Гедройца, навукоўцаглебазнаўца, аграхіміка, акадэміка АН СССР, прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі глебазнаўцаў.

— 25 гадоў таму (1972) заснаваны Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынка". Адкрыты 10 ліпеня 1972 г.

**6** — гэтым днём 1912 года датуецца другая частка паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка".

**7** — 80 гадоў таму (1917) у Менскім гарадскім тэатры (цяпер тэатр імя Янкі Купалы) адбыўся І з'езд вайсковых і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронту.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1922) Барыса Коўзана, лётчыка, Героя Савецкага Саюза, адзінага лётчыка ў свеце, які тараніў чатыры варожыя самалёты.

**8** — 115 гадоў з дня нараджэння (1882) Івана Макея, казачніка, які не толькі апавядаў свае казкі, але па-майстэрску іх разыгрываў — то быў сапраўдны тэатр аднаго акцёра.

**10** — 425 гадоў таму вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт Аўгуст паводле дамовы абмяняў маёнтак Ляхавічы (цяпер раённы цэнтр Берасцейскай вобласці) на маёнтак Свіслач Ваўкавыскага павета, які належаў Яну Еранімавічу Хадкевічу.

— 375 гадоў таму ад раны ў бітве пад Хоцінам памёр гетман Войска запарожскага Пётр Канашэвіч, вядомы сваёй мянушкай Сагайдачны. Незадоўга перад смерцю пастрыгся ў манахі.

— 125 гадоў з дня нараджэння (1872) Н.Ф.Купрыянавай, пяцёра сыноў якой загінулі ў Другой сусветнай вайне.

— 75 гадоў таму (1922) з ініцыятывы англійскага прэм'ер-міністра Д.Лойд Джорджа ў Генуі была скліканая міжнародная канферэнцыя, на якой ставілася пытанне пра палітычнае ўпарадкаванне Усходняй Еўропы. Урад БНР выслаў туды дэлегацыю (прэм'ер-міністра Вацлава Ластоўскага і міністра замежных справаў Аляксандра Цвікевіча) з мэтай дамагчыся прызнання БНР незалежнай дзяржавай.

## Крыжаванка



**Па гарызанталі:** 4. Паэма Я.Коласа пра ваенныя падзеі. 5. Найвялікшы ў свеце фашысцкі лагер смерці на тэрыторыі Беларусі. 7. Рабочы пасёлак у Асіповіцкім раёне — ён атрымаў назву ад даўніх перасяленцаў на нашую зямлю. 15. Што яднае людзей розных нацыянальнасцяў. 16. Вёска ў Маладзечанскім раёне, названая імем хітрага звярка. 17. Вёска ў Мсціслаўскім раёне, у аснове яе назвы слова "люд". 18. Знак, якім у даўнія часы пазначалі злачынцаў. 19. Адна з назваў самай старажытнай царквы на Беларусі. 20. Ягада, якая падказала назву рэстарана ў Менску. 21. Вёска ў Браслаўскім раёне стаяла на памежжы — адсюль яе назва. 22. Падатак у даўнія часы. 23. Адна з асноўных галін гаспадарчай дзейнасці нашых продкаў. 27. Царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік-палеміст шаснаццатага — семнаццатага стагоддзяў. 28. Ласкавае імя дзядзькі ў паэме Я.Коласа "Новая зямля".

**Па вертыкалі:** 1. Адыход кіраўнікоў ад народа. 2. Вялікая галушка, начыненая мясам. 3. Машына для апрацоўкі металу, дрэва. 6. Вёска, у якой захавалася даўняя слынная царква абарончага тыпу (Гарадзеншчына). 8. Член талакі. 9. Скопішча карысных выкапняў. 10. Навасёл. 11. Адны з лепшых цукерак. 12. Горад, які даў знатных яўрэйскіх людзей. 13. Аблава гітлераўцаў на партызан. 14. Любімае мяса беларусаў. 24. Наша характэрнае вымаўленне. 25. Маскоўскі эканаміст М.Шмялёў пабудаваны пры сацыялізме лад, у тым ліку і на Беларусі, назваў... 26. Старадаўняя назва беларуса.

**Склалі Эла Дзелянкоўская і Мікалай Дзелянкоўскі.**

Пры перадруку спасылка на NS абавязковая

НАША СЛОВА (14)

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 523 Наклад 2216 паасобнікаў.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана ў друк 2.04.1997 г. у 15 гадзін.